ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# ШЛЯХ СТУДЭНЦТВА

ОРГАН ВЫКАНПРОФБЮРО
ПРАЛЕТСТУДУ
БЕЛ. ДЗЯРЖ. УНІВЭРСЫТЭТУ

№ 4—5

САКАВІК—КРАСАВІК

1927—1928



МЕНСК

# ЗЬМЕСТ

ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ШЛЯХ СТУДЭНЦТВА

ОРГАН ВЫКАНПРОФБЮРО
ПРАЛЕТСТУДУ
БЕЛ. ДЗЯРЖ. УНІВЭРСЫТЭТУ

№ 4—5

САКАВІК—КРАСАВІК

1927—28

МЕНСК

**В. Башмачнікаў**

# Вынікі і задачы

*(Пасьля V канфэрэнцыі пралетарскага студэнцтва Беларусі)*

Апошняя ўсебеларуская канфэрэнцыя Пралетстуду завяршыла сабой досьлед і практыку паўтарагадовай работы студэнцкіх арганізацый, пад кутом погляду падрабязнай ацэнкі пройдзенага шляху і вызначэньня канкрэтных задач на бліжэйшы пэрыяд. Падрыхтоўка спэцыялістых цяпер і на рад бліжэйшых гадоў, у сувязі з завастрэньнем пытаньня аб культурнай рэвалюцыі, набывае найбольш актуальнае значэньне, бо „ў нас культурнае разьвіцьцё значна адстае ад нашага гаспадарчага разьвіцьця і падвышэньня жыцьцёвага ўзроўню рабочых і сялян“, у той час, як „ажыцьцяўленьне індустрыялізацыі і ўздым гаспадаркі ў далейшым ня можа ісьці без паралельнага ўздыму культурнага ўзроўню“ (з дакладу т. Рыкава на XV партзьезьдзе).

У БССР, як і ўва ўсім СССР апошні пэрыяд працы стударганізацый характэрызуецца значным колькасным павышэньнем акадэмічнай пасьпяховасьці студэнцтва, узростам актыўнасьці студэнцкіх мас. Разам з тым, студэнцкія масы высоўваюць перад стударганізацыямі павышаныя запатрабаваньні і што да якасьці абслугоўваньня і больш чуткага падыходу да пытаньняў культурна-матар'яльнага абслугоўваньня студэнцтва. Бясспрэчна, што гэтыя зьявішчы трэба лічыць выключна нармальнымі і здаровымі. Аднак трэба адзначыць, што мейсцамі назіраюцца хворыя моманты, на якія і зьвярнула ўвагу канфэрэнцыя. У працы некаторых студэнцкіх арганізацый мала яскрава праяўляецца формула „акадэмізм плюс навыкі ў практычнай грамадзкай працы даюць патрэбнага нам спэцыялістага“. Перагіб палкі ці ў адзін, ці ў другі бок бязумоўна аднолькава шкодны і ідзе ў разрэз з нашымі задачамі падрыхтоўкі чырвоных спэцыялістых, маючых грамадзкія навыкі. Сёньня нашы стударганізацыі павінны паставіць перад студэнцтвам пытаньне ўва ўсёй яго шырыні і ясна, выразна паказаць поўную неабходнасьць кожнаму студэнту атрымаць у навучальнай установе, як неабходны комплекс тэорэтычных ведаў, так і практыку грамадзкай працы. Трэба проста сказаць студэнцтву, што перавага па ўсіх лініях (стыпэндыя, праца пасьля сканчэньня навучальнай установы, розныя ільготы і г. д.) будзе ў першую чаргу давацца тым, хто нясе грамадзкую працу, бо, зразумела, што мы ў першую чаргу зацікаўлены ў вучобе і працы таварышоў, якія грамад. працу выконваюць і толькі за іх мы можам несьці ў поўнай меры адказнасьць на іх будучай працы па спэцыяльнасьці.

Усё гэта, вядома, ні ў якім разе не павінна нас зварочваць да становішча, якое мы мелі ў 1922-23 г. г., калі надзвычайна раздутыя формы грамадзкай працы забіралі ўсю энэргію студэнта, праз што ён ня мог атрымаць неабходнага мінімуму акадэмічных ведаў. Уся справа ў тым, каб стударганізацыі ўзялі ўсё гэта пад увагу і злучылі акадэмічную і грамадзкую працу ў адно гарманічнае цэлае. У падставу гэтай цяжкай працы, якую, вядома, ня вырашыш за тыдзень, неабходна пакласьці

дакладны і выразны вучот актыву, вучот і кантроль над працай студэнцтва, і сваячасовае рэгуляваньне нагрузкі з тым, каб у нас ня было групы перагружанага і „хранічна“ адстаючага актыву, у той час, калі значная частка радавога студэнцтва ня будзе мець ніякай нагрузкі. Пры разьмеркаваньні працы, у падставу перш на перш трэба пакласьці даброахвотнае жаданьне студэнта ісьці на тую ці іншую галіну працы, бо без такога жаданьня, імкненьня да роду працы, яна становіцца для студэнта цяжкай, няцікавай, а таму і „казённай“.

Шмат месца ў працах канфэрэнцыі заняло пытаньне аб нежаданьні часткі студэнцтва па сканчэньні навучальнай установы ехаць на вёску, а лепш застацца на горшай працы, мабудзь зусім бяз працы, але толькі ў горадзе. У той-жа час гэта група студэнцтва распаўсюджвае ў масе чуткі аб перавытворчасьці спэцыялістых, аб страце пэрспэктыў на працу і г. д. Пры ўмовах БССР, калі ў нас яшчэ да гэтага часу няма сталай сыстэмы народнае асьветы, і навучальныя ўстановы пасьля рэвалюцыі ўзрасталі, да некаторай ступені, стыхійна, вядома што маглі здарыцца памылкі ў разьліках па тэй, ці іншай спэцыяльнасьці і гэтыя памылкі выпраўляюцца ў выглядзе скарачэньня некаторых галін асьветы (лясная), адчыненьня новых, патрэбных для эканомікі і гаспадаркі навучальных установ (пэдкурсы, вяч. рабфакі), але гэта ні ў якім разе не павінна адбівацца на настроях студэнцтва, сеяць пэсымістычныя думкі і даваць падставу крычаць аб перавытворчасьці спэцыялістых наогул, і ў той-жа час адмаўляцца ад працы на вёсцы.

Пытаньне аб далейшай пралетарызацыі нашых навучальных установ, ня гледзячы на тое, што ў БССР у гэтых адносінах становішча лепшае чым у іншых рэспубліках, таксама было рашуча высунута на канфэрэнцыі па дакладу Наркамасьветы. У гэтым годзе прынцыпы камплектаваньня нав. установ будуць зьменены і ў падставу кладзецца курыяльная сыстэма (якая з посьпехам ужываецца і ў УССР), пры чым кожнай навучальнай установе будуць дадзены сталыя процанты па кожнай сацыяльнай групе, якіх (процантаў) і трэба будзе пільнавацца пры прыёме. У ВНУ прыём будзе праходзіць дэцэнтралізаваным парадкам,—па асобных факультэтах. Гэтыя мерапрыемствы, бязумоўна, будуць мець уплыў на пралетарызацыю і яна значна пасунецца наперад.

У той час, калі мы ўпарта дабіваемся павышэньня акадэмічнай пасьпяховасьці і пралетарызацыі нашых навучальных установ, нельга не зьвярнуць самай сур'ёзнай увагі на матар'яльнае становішча нашага студэнцтва, бо ад гэтага ў значнай меры залежыць пасьпяховасьць падрыхтоўкі новых спэцыялістых. Канфэрэнцыя падкрэсьліла, што студэнцтва да гэтага часу знаходзіцца ў вельмі цяжкім матар'яльным становішчы, ня гледзячы на некаторае палепшаньне за апошнія гады. Стыпэндыя па сваім разьмеры яшчэ ня можа здаволіць самых неабходных патрэб студэнта, інтэрнаты зьмяшчаюць толькі палову нашага студэнцтва, сталоўкі таксама вымагаюць палепшаньня,—адным словам, на гэтым фронце ў нас заўважаецца адставаньне і зараз мы павінны зрабіць тут шмат мерапрыемстваў. Аднак, было-б памылкаю спадзявацца на палепшаньне выключна праз павялічэньне сродкаў на стыпэндыі, інтэрнаты, сталоўкі і г. д. Справа ў тым, што часта і адпушчаныя сродкі ў нас скарыстоўваюцца нерацыянальна. Стыпэндыі часамі пападаюць ня тым каму трэба, пастаноўка інтэрнатаў часта дрэнная, бо мы не зварочваем належнай увагі на распарадак жыцьця ў агульных памяшканьнях, ня ставім сваячасова перад кіраўнічымі органамі навучальных установ пытаньня аб зьнішчэньні шэрагу дробязяў, якія перашкаджаюць у нармальным жыцьці і г. д. У сталоўках, дзе мы маем поўнае права нагляду і кан-

тролю за працай, гэтыя функцыі ня выконваюцца і, такім чынам, мы самі часта не прыкладаем дастатнай энэргіі на тых вучастках матар'яльна-бытавога жыцьця нашага студэнцтва, дзе-б гэта энэргія магла даць значнае палепшаньне нашага дабрабыту і жыцьця. Усё гэта, вядома, ні ў якім выпадку, ня здымае з павесткі дня пытаньні аб павялічэньні стыпэндый для студэнцтва, аб пашырэньні інтэрнатаў і г. д., і навакол гэтых пытаньняў мы павінны шырока ўскалыхнуць грамадзкую думку, якая-б дапамагла з наступнага году дабіцца агульнага палепшаньня матар'яльнага становішча студэнцтва, бо цяпер пытаньне аб падрыхтоўцы новых кадраў спэцыялістых і аб стварэньні здавальняючых умоваў для студэнцтва, настойна напамінае выпадак у Шахцінскім раёне.

Нельга абыйсьці пытаньня, якое таксама завострывалася на канфэрэнцыі, якое ў працягу двух апошніх гадоў заняло ў нашым жыцьці значнае месца,—гэта пытаньне аб абароназдольнасьці нашае краіны. Нас, студэнцтва БССР, каторая знаходзіцца на мяжы з капіталістычным сьветам, пытаньне аб ваенізацыі павінна цікавіць у першую чаргу. Ня гледзячы на тое, што ў нас ОСО-Авіяхім значна пашырыў сваю працу, што ў нас разгорнут шэраг вайсковых гурткоў, абарудаваны стрэльбішчы (тыры), усё-ж такі мы ня можам прызнаць, што посьпехі ў ваенізацыі мы маем такія, што маглі-б на іх супакоіцца. Нам трэба яшчэ больш падцягнуцца, яшчэ больш уцягнуць масы ў працу па ваенізацыі, з тым, каб у патрэбны момант мець магчымасьць абараняць сацыялістычную бацькаўшчыну, абараняць правы на атрыманьне адукацыі, якія мы атрымалі ў выніку перамогі Кастрычніка.

Чырвонай ніткаю ў пастановах канфэрэнцыі праходзіць неабходнасьць унетраньня ўва ўсю нашу працу, як акадэмічную, так і грамадзкую, культурнасьці, без якой мы ня зможам пасьпяхова ісьці наперад і якой у нас не хапае ні ў асноўных галінах нашае працы, ні ў дробязях нашага штодзеннага жыцьця.

# ЛІТАРАТУРНЫЯ СТАРОНКІ

**Міх. Гольдбэрг**

## Дзевятнаццатая вясна

(*Эцюд*)

Усё гэта здарылася нечакана, неяк адразу. Здавалася, што май няпрыкметна падкраўся да гораду, абняў яго з-за сьпіны, закрыў вочы цёплай і пяшчотнай рукой, жартліва запытаў:

— А ну, згадай—хто гэта?..

Юрка, калі вышаў з чыталкі, раптам усёю істотаю адчуў цьвіценьне вясны. З саду насупроць цягнула пахам маладога, толькі расьцьвіўшага бэзу, вецер шумеў у верхавінах дрэў, якіясь зялёныя пылінкі плылі ў паветры і павольна асядалі на зямлю...

— Слаўна!—падумаў Юрка і глыбока ўздыхнуў.—Слаўна!..

Ён пашоў. Ухмыляўся і пасьвістваў. Яшчэ тры залікі—і ён вольны, і гэты май, і сонца, і хвалюючае бязьмежнае прывольле—для яго, для Юркі. І яшчэ—Іда. Гэта яе ледзь-ледзь касыя, цёмна-зялёныя вочы сьмяяліся яму ў чыталцы. Дзіўная яна. Усё сьмяецца ды жартуе, а ў вачох, недзе глыбока-глыбока, сьвеціцца сум. Мілая, і ў яе залікі. І яна не заўважыла як запанаваў май, як упрыгожыўся горад... А ўсё-ж дарагія гадзіны праляцелі ў гэтай строгай, цёпла дышучай кнігамі, чыталцы. Кнігі, кнігі... Як добра пазнаваць, і з кожнай хвілінай усё больш і больш!

Юрка перайшоў вуліцу і разам з зыркім шумным натоўпам уліўся ў студэнцкую сталоўку. Прабраўся між лавак, густа нанізаных братвой, вышукваючы мясьціну.

— Юр, сюды...

Ён абярнуўся. Каця адсоўвалася і ўступала яму край лаўкі. З-пад хустачкі выбіваліся ільняныя пасмы, твар засьвяціўся знаёмым прывітаньнем. Юрка маўкліва заняў месца і хмура апусьціў галаву. Потым, адчуўшы Кацін погляд, скоса паглядзеў на яе і крыва ўсьміхнуўся:

— Ты ўжо загарэць пасьпела... дзе гэта?..

Горда выпрамляючы кранутыя першым загарам рукі, адказала:

— Мы сёньня з Нюркай за горадам вучылі... Цэлы дзень на сонцы... Галава баліць цяпер. Але за тое, як загарэлі! Глядзі...

Неахвотна падняў вочы і адвярнуўся. І зноў—няшчырае, цяжкае маўчаньне.

Юрка крышыў хлеб і думаў аб тым, якое цяжкае гэта спатканьне з Кацяй. Чаму? Іх блізкасьць, што нарадзілася і расьцьвіла ў паўзмрочных калідорах унівэрсытэту, за супольнай кніжкай у чытальні, пад ціхі гуд прымуса ў пакойчыку інтэрнату, іх блізкасьць, вытканая з такіх сьветлых і мучыцельных успамінаў, засталася тая-ж. Але нешта перашкаджала Юрцы як раней весела і проста паглядзець ёй у твар, кінуць вольнае слова, засьмяяцца. І ня думалася аб ёй, ня марылася. Хутчэй бы вось закончыць абед і пайсьці, пайсьці, каб ня бачыць гэтых сумных пытаючых вачоў, не адчуваць працятага трывожнай ласкай погляду...

Навакол весела перакліукаліся хлопцы. І словы аб вясьне, аб апошніх заліках, аб вакацыях, трывожна кранулі сэрца. Падумаў украдкай пра Іду і адразу сябе абарваў: „што гэта я... зусім разьмяк“. Але праз хвіліну зноў успомнілася чыталка і дзяўчына. Ссунуў бровы, ускудлачыў валасы, устаў, нерашуча чакаючы, што скажа Каця.

Яна хутка і нібы вінавата прашаптала:

— Ты вечарам вольны, а?.. Пойдзем у кіно...

— Не. Буду вучыцца.

— Залік у аўторак, Юра, пойдзем ужо сёньня...

— Не магу. Сама ведаеш—колькі чытаць...

І, не чакаючы адказу, павярнуўся і вышаў.

А ўвечары сустрэўся з Ідай. Яна ішла ў стракатай кампаніі студэнтаў—аднакурсьнікаў па Савецкай, відавочна бяз усякай мэты. Павольна плылі ў густым сьвяточным натоўпе, абменьваліся нязначнымі бясколернымі словамі.

— Хлопцы, гайда на лодкі—ня вытрываў Юрка. Ён жадаў руху, размаху, буйнай вясёласьці, і гэтае глупае бадзяньне ў людзкім сьціску туды і назад было яму праціўна.

З радасьцю згадзіліся.

Рэчка сустрэла плямамі лодак, гуляшчым натоўпам на берагох. „І тут поўна“—падумалася са злосьцю. Узялі трохпарку і з гарачай сілай, што ўспыхнула раптам у адвыклых ад напружанасьці мускулах, панесьлі яе супроць плыні.

Юрка сядзеў на стырне, глыбока трымаючы стырнавое вясло. Цёплая вячэрняя вада песьціла руку.

Абрысы берагоў расплыліся ў цемры. Здавалася, што вузкая Сьвіслач стала бязьмежнай, і куды ні павярні—цябе спаткае спакойная, цяжкая гладзь. Насупроць сьвятлела тонкая постаць Іды, яна парыўча і ня роўна ўзмахвала вёсламі. Таму што яна, супроць звычаю, не сьмялася і была ціхай і пакорлівай, Юрку пранізаў салодкі боль чаканьня. Захацелася пяяць—шырока, разьліўна.

— Запяём можа, хлопцы...

Зацягнуў Кастусь—высокі сільны дзяцюк у паласатай майцы. Падхапілі спачатку нястройна, але потым усё дружней і дружней загучэлі галасы. Простыя словы чырвонаармейскай песьні набывалі нейкі асаблівы сэнс. Нібы падымала ўсіх магутная хваля, і чым вышэй яна расла, тым мацней, тым больш упэўнена гучэла песьня. І накіп будніх дзён, якая часамі лішне густа прасякае ўва ўсе поры душы, адбіраючы бадзёрасьць і прагнасьць жыць, цяпер адпала, змытая песьняй. Нечакана песьню парваў чыйсьці ўсхвалёваны галасок з носу лодкі:

— Таварышы, а ведаеце што?

— Што?

— Вось цяпер... добрая яна штука—жыцьцё, чэснае слова!

Усе засьмяяліся. А Іда зьвярнулася на галасок і звонка кінула:

— І нашае яно, праўда, наша!

...Калі плылі назад, зморанья і блізкія, прыслухоўваліся да выразных сьпеваў жаб, думалі аб сваім. Юрка задумліва глядзеў у чорную воду. Так, гэта ясна—ён кахае Іду. Але-ж ён кахае і Кацю. Кахае, нельга лгаць!.. І чаму гэта нельга кахаць абедзьвюх? Хто стварыў рамкі, хто напісаў умовы?..

Стырнік, ня сьпі!

Уздрыгнуў, павярнуў лодку да дашчатай прыстані. З жартамі і сьмехам выбраліся з лодкі, узьбеглі на стромы бераг. Іда злавіла

Юрчыну руку і, не абарочваючыся, толькі крыху павярнуўшы галаву, запытала прыглушаным, дрогнуўшым голасам:

— Ты мяне правядзеш, так?

— Праведу!—Юрка моцна сьціснуў маленькія, халодныя пальцы. Жадаў сказаць яшчэ нешта вельмі пяшчотнае, але не знайшоў слоў, змоўк.

На павароце вуліцы, пры жыдкім сьвеце ліхтара, стыкнуліся з Кацяй. Яна недзе сьпяшалася з кніжкамі. Уздрыгнула, зьбялела, балюча ўсьміхнулася. Хуткім, прагным поглядам акінула Іду. Юрку апаліла. Ён нэрвова правёў рукой па валасох, сказаў: „Я, Каця...“ але яна кінулася наперад, нат' не адвярнулася.

Боль абхапіў сэрца. Мучыў ня сорам, што салгаў каханай дзяўчыне, а як-раз тое, што яна каханая, каханая як раней, і ён гэта цяпер востра адчуў. Яе затуманены твар паказаўся такім дарагім у гэты міг, абудзіў сьветлыя ўспаміны, і тое пытаньне над якім думаў на рацэ, зноў паўстала перад Юркай ва ўсёй сваёй неадхільнасьці.

Іда ціха ішла побач, яны адарваліся ад кампаніі, вуліца была пустая. Трэба нешта сказаць ёй, растлумачыць—яна-ж чулая, усё зразумее. Але што сказаць? Запэўніць, што можна адначасова кахаць абедзвюх, аднолькава горача і моцна? Ці паверыць, ці павінна яна гэтаму верыць?.. Ці можа быць такое пачуцьцё? Можа так толькі здаецца. Можа ён, Юрка, зусім ня ўмее кахаць і ўся гэта гісторыя толькі паказвае наколькі ён бедны духам... Не, няпраўда! Ён кахае, кахае непераможна моцна...

Іда спынілася, узяла за рукі, уважліва і сумна ўглядзелася ў твар:

— Юра, ведаеш—ідзі да хаты... Сёньня ня трэба... Другі раз...

— Чаго ты, Іда?

— Так... Ня трэба сёньня... Ідзі, мілы...

Спрабаваў пярэчыць, але зразумеў, што гэта лішняе. Яму самому хацелася адзіноты ў гэту хвіліну. Выпусьціў рукі, рэзка павярнуўся, пашоў. Але адразу-ж астанавіўся і крыкнуў у цемру:

— Іда, дык мы спаткаемся, так?..

— Ну, зразумела... Які ты!

Засьмяялася, падбегла, парыўча абняла і раптам—палкі, як укол, пацалунак.

— Іда...

Вырвалася і пабегла. Недзе далёка надрыўна брахалі сабакі, хмура і нізка гудзеў на слупох дрот.

Юрка ішоў пасярэдзіне бруку, то ўхмыляўся, то строга сьціскаў вусны і моршчыў лоб. Ветрык данасіў з станцыі рэзкія грудныя гукі цягнікоў.

Ніколі з ім ня было нічога такога. Ішлі дні, як шырокая спакойная рака—і вось застаўкі, плынь парушана, пенная вада цесьніцца і бурліць...

Вялікае прыгараднае сяло было сьведкам яго віхрастых дзіцячых гадоў. Сяло гарэла некалькі разоў, і ў адзін з ліпнёўскіх пажараў занялася саламяная страха бацькавай хаты. 13-ці гадовы Юрка пашоў у Менск жабраваць, шукаць шчасьця. І ён знайшоў яго. Дзіцячая сельскагаспадарчая калёнія, куды ён папаў як бяспрытульны, піанэр-атрад, вучоба, кніжкі пазнаёмілі яго з новым, цудоўным сьветам, поўным радасьці і вялікага захапленьня творчасьці. Потым фабзавуч, старэнькі майстар, камсамольская ячэйка, новыя сябры...

Памятуе Юрка, як моцна пацягнула яго далей вучоба, якім непаўторным сьвятам быў дзень залічэньня яго ў Вуз!.. Сумненьні, хістаньні, няўменьне рашуча павярнуць у той ці другі бок, ніколі ня ішлі поруч з

ім па жыцьцёвым шляху. Ён заўсёды ведаў і ясна ўсьведамляў куды ідзе і чаго дабіваецца. Чаму-ж цяпер, пры канцы дзевятнаццатай вясны ён папаў у тупік уласных пачуцьцёў, згубіў здольнасьць орыентацыі, ня мог вырашыць пытаньня? Раней, калі ён кахаў толькі Кацю,—ён ня ведаў трывогі, тамленьня, каханьне рашчынялася ўва ўсёй абкружаючай сапраўднасьці, зьлівалася з ёй у адно рамантычнае цэлае. Пасьля спатканьня з Ідай усё зьмянілася. Ён кахаў гэту яўрэйскую дзяўчыну неяк інакш, гэтае каханьне ўжо ня зьлівалася з сапраўднасьцю, а ўзвышалася над ёй, як у моры ўзвышаецца парус адзінокага баркасу... І самае дзіўнае тое, што ён не перастаў кахаць Кацю...

Трэба быць мужным і цьвёрдым. Сьціснуць зубы і перамагчы сябе. Вырваць з грудзей абодва пачуцьці, забыць пра каханых. Бо іначай— будзе нямінучая пошласьць, фальш, ілжа. Бо сёньня яшчэ ня той май, калі зьнікнуць умоўнасьці, скрушацца рамкі... Так, трэба быць мужным і цьвёрдым...

* * *

Сонечнай, пагожай раніцай Юрка ўзьбег па знаёмых шырокіх унівэрсытэцкіх сходах. Тутака было шумна. Званілі з райкому партыі, перадавалі, што сёньня а чацьвёртай гадзіне дня—дэманстрацыя з прычыны наскоку на нашае прадстаўніцтва ў Пекіне. Студэнты ладзілі з картону пужалы, размалёўвалі лёзунгі, штурхаліся ў калідоры, узбуджаныя і ўсхвалёваныя. У цэнтры аднэй групы аратарстваваў Кастусь.

— Тут казаць няма чаго... Шпалер у мяне ёсьць, на дарогу хопіць —махну ў Кітай... Факт!

— Дзівак, каму гэта патрэбна?.. Там і без цябе горача... Тутака трэба працаваць...

— Ня рыпайся! Ведаю, што трэба! Біцца трэба—вось што!—і ён патрос ядраным кулаком.

Ад усіх гэтых слоў, твараў, навін, павеяла на Юрку заветным баявым духам, знаёмай любай напружанасьцю, напоўзабытай у апошнія дні... Добра было кінуцца з галавой у струмень абурэньня, палаючай ненавісьці і гатоўнасьці біцца ў любую хвіліну.

Выходзілі з песьнямі, высока падняўшы ў паветра дрыгаючых лордаў. Ішлі шпаркім энэргічным крокам, не абарочваліся па бакох, ня чулі нічога, акрамя песьні. З усіх бакоў, наперадзе і далей за імі, імкнуліся такія-ж атрады, здавалася, што ў каменных зьвілінах гораду забілі жывыя чалавечыя крыніцы і няма нічога ў сьвеце магутнейшага за іх кіпучую сілу.

Далёка ўперадзе, з балькону гаварылі прамоўцы, вецер адносіў іх словы ў бок, але ўсё было зразумела прышоўшым людзям. І Юрцы стала ўсё цудоўна ясна, цяжкі груз, што ляжаў у грудзёх, растапіўся, разьліўся ва ўсе куткі бадзёрага цела. Ён бачыў у натоўпе хустачку Каці, мільганула стрыжаная галоўка Іды.

— Добры дзень!—крычаў Юрка і лавіў адказ у гуле руху, праз шолах штандараў і раскаты „ура". І яму адказвалі дзяўчыны такімі-ж зьвінячымі, узрушанымі крыкамі, і ня было на твары Каці балючай усьмешкі, а ў вачох Іды—суму.

Юрка ішоў у натоўпе і яму было і радасна, і дзіўна, што тое пытаньне, якое яго так мучыла, вырашалася так лёгка і проста. А крыніцы білі, людзкія струмені зьвінелі вясьнянай медзьдзю аркестраў, ледзь-ледзь дрыжэлі ў вышыні ніці правадоў...

Андрэй Александровіч

## Шторм

Што шуміш так, мора,
Гулам нясьціханым!
Гулам хвалі чорнай,
хвалі раззлаванай.

Чуць відно, далёка
Там на небасхіле
ветразь адзінокі
ў хвалях абясьсілеў.

Дый вятры ганяюць...
Жудасна ў палоне...
Белай пенай грае
страшнае прадоньне.

Кончыцца бядою,
толькі так, няйначай!
Абвіе журбою
вецер кут рыбачы.

Дый каму па сілах
дужацца са штормам?
Вецер над магілай
хваляю прыгорне.

Шумна чайкі строем
Спуджана крыляцца:
Сьмерць не за гарою,—
страшна аглядацца!

І гудзіць-жа мора,
Гулам нясьціханым.
Гулам хвалі чорнай,
хвалі раззлаванай.

Жыў рыбак на сьвеце,
рыбака ня стала.
Гоніць злосны вецер
шквалам вал за валам!

Сімеіз, ліпень, 1927

---

Ник. Шавека

## В тени аудиторий

Зари вечерней гасли свечи...
Вздыхала вьюга тяжело.
От шума города далече
Было родимое село.
Я не забыл его сугробы,
Друзей далеких не забыл.
Печаль и радости учобы
Я с ними письмами делил.
Я им радостные вести,
что по весне вернусь в село
С моею самой лучшей песней
какую сердце сберегло.
... В учобе ярко дни горели.
Яснела облачная высь.
Сыны полей под вой мятели
Учились жить и строить жизнь.
В тени больших аудиторий
Журчал студенческий родник ..
Рождались яростные споры,
Бросались выдержки из книг.
Стучались в дверь упрямо ветры.
И я как ветер был упрям—
Стучался в двери геометрий
И непонятных диаграмм.
В огне молодость пылала
В высоких стенах, как пожар
И разливался в гулких залах
Лихой студенческий напев.
Звонки... Глухие корридоры..
Обида. Радость. Боль и гнев.
И снова льются разговоры
Решая тысячи проблем.
Хоть общежитье не богато,
Но весел дружный коллектив.
В сердцах горячих каждый атом
О новых людях говорил.
Шумела жизнь цветущим садом
В кругу веселых близких лиц...
Я пил порывисто и жадно
Науки кровь с немых страниц.

г. Гомель. Педтехникум.

# ГРАМАДЗКАСЬЦЬ І БЫТ

**С. Меклер**

## Из блокнота культработника

Перед большим плакатом, возвещающим о диспуте „Культура и быт“, группа студентов.

— „Ага, и у нас заговорили“.

— „Что-ж, мода. В Москве диспут, в Ленинграде диспут, надо и нам „диспутнуть“.

— „Говорить не о чем. Мелочь одна. Вот в Москве, мне знакомые ребята рассказывали, в общежитии штуку выкинули“...

Штука, надо полагать, была не мелкая—на лицах у слушателей расплылась улыбка и рассказчик был награжден одобрительными возгласами...

* * *

Да, надо и нам „диспутнуть“.

* * *

Два вечера в переполненном актовом зале шел разговор о „культуре и быте“. Два вечера, внимательно, несмотря на усталость после трудового дня, слушали доклад и прения. Докладчик остановился сперва на художественной литературе, отражающей в той или иной степени быт молодежи, а затем разобрал выводы культурно-бытовой анкеты, проведенной Исполбюро в марте прошлого года. Прения развернулись широко, студенты и преподаватели подходили к вопросу с разных точек зрения.

* * *

Так ли обстоит дело с бытом молодежи, как описали Гумилевский, Малышкин, Гладков, Романов? Далеко не так. Правда, в отдельных произведениях подмечены отрицательные стороны быта, но краски сгущены не только в позволительной художнику степени, а в расчете на определенную группу читателей, сгущены до „душка“ и „душка“ довольно неприятного свойства.

Но главное, главное—отсутствие перспектив, неправильные выводы, черезчур смелые обобщения, которые делают авторы „Переулков“, „планет“ и „Черемух“. И не прав тот, кто хочет найти в этих произведениях организующие моменты.

Но, считая клеветой изображение нашего быта Малашкиным и другими, мы должны признать, что в быту нашем есть не мало темных пятен и пятна эти отнюдь не те, о которых принято говорить, что „и на солнце бывают пятна“. Нет, это очень темные, подчас просто позорные пятна. Мы их должны видеть, должны с ними бороться.

* * *

Мелочь!

Любимое словечко, которым мы отбояриваемся от ряда обвинений, это—мелочь.

Товарищи студенты! Вы вписываете в библиотечную книгу жалоб свои протесты таким языком, что приходится сомневаться, есть-ли у вас хотя-бы „шапочное“ знакомство с грамматикой.

Вы подаете библиотекарям записочки с такими „перлами“, как „Издание Бурого Вестника“ (вместо Буревестника!), „учебник (!) Плеханова“.

Мы на это хором отвечаем—мелочь!

Товарищи студенты! Вы проявляете неуважение к педагогам—вы с шумом входите и уходите во время лекций, проявляя, по меткому выражению одного профессора, лишь „уважение к своим собственным сапогам“.

Мелочь!

Вы не уважаете свою подругу студентку-девушку. Вы в ее присутствии „кроете“ неприличным словом; вам странным кажется, когда она не проявляет желания выслушивать ваши комплименты, не принимает ваших ухаживаний. Вы убеждены, что „курица не птица, а студентка не девица“.

Мелочь!

А вот в Москве, там ребята штуку выкинули...

Необходимо отказаться от нелепого мнения, что в Москве „все плохо“, а у нас „все хорошо“. Московское студенчество ничем не отличается от нашего, ни по социальному составу, ни по культурному уровню. И если там темные пятна быта резче бросаются в глаза, то только потому, что число студентов, а следовательно и количество пятен (а не качество!) во много раз превышает численность нашей студенческой массы...

И тот, кто считает, что среди московского студенчества много кореньковых—жестоко ошибается; кто аргументирует тем, что в „Москве убили“, „в Ленинграде повесили“, а у нас де „слава богу всё благополучно“—не понимает основного. А основное в том, что наш быт слагается из множества мелочей и, как в сложном механизме выпадение маленьких винтиков грозит остановкой работы машины, так и наш быт при неучитывании всех мелочей принимает уродливые формы. Кто отмахивается от мелочей, тот хотя-бы невольно, но способствует развитию крупных, подчас трагических событий в нашем быту.

### „Все так делают“

Студент растратил общественные деньги. Печально. Но еще печальнее то, что находятся голоса—и их не мало—„ведь денег растратил совсем немножко. Каких нибудь 20 рублей“.

Широкие натуры! Вот если бы тысячи три, да с кутежами, с афинскими ночами—тогда другое дело. А то 20 рублей.

Ну, а то, что деньги общественные, студенческие—это не важно?

То, что в принципе нет разницы между общественным рублем и тысячей рублей, что нарушено доверие, оказанное студенческими организациями? Кажется ведь так просто.

Но находится еще возражение... „Не беда, кто из нас не ошибался. Все так делали“...

Когда барич Нехлюдов взял горничную Катюшу („Воскресение“ Толстого) и почувствовал на минуту угрызение совести, он поспешил себя утешить тем, что „все так делают“... и дядя и товарищ...

Когда проститутка Настя с горечью рассказывала страннику Луке („На дне“ Горького) о своей непотребной жизни, он утешал ее тем, что не она одна такая, а что все люди с`из‘яном.

Нам не к лицу ни психология дворянина Нехлюдова, ни рассуждения „божьего человека“ Луки. Мы должны сказать, что „не все такие“, что „таких“ ничтожнейшее меньшинство. Мы знаем, что в процессе общественной и политической жизни, равно и в процессе строительства нового, культурного быта выскакивают из колеи и должны выскакивать неустойчивые товарищи. А масса идет вперед.

Как должны мы относиться к подобным товарищам? Разумеется не придерживаться „падающего толкни“. Напротив—поднять, помочь товарищу. Но при условии, что товарищ придет с повинной, не будет упорствовать, лгать и скрывать свои грехи.

Мещанской же морали „кто богу не грешен, царю не виноват“ не должно быть места в нашей среде.

**„Незаметные герои“...**

Год назад в стенгазете „Медфаковец“ была помещена статья под заголовком „Даешь культуру“, где автор протестовал против похабных и антисемитских надписей на стенах уборных Университетских зданий. На заметку не обратили внимания и сказали, что вольно же автору читать подобные „глупости“. В № 11 „Красного Студенчества“ за этот год помещена аналогичная заметка. Как видно, никто не пророк в своем отечестве.

Как трогательно звучит это „не обращать внимания на глупости“. Но ведь это не просто похабщина от некультурности, дело обстоит много сложнее. Будущий педагог, врач, юрист,—отводит свою „наболевшую душу“. Их мало, этих „страдальцев-писателей“, но они есть. Это враги нашей молодой культуры. Они в загоне, в своеобразном „подпольи“, но не бойся они сторожа Алексеева, они бы той же похабщиной расписали стены аудитории, вышли бы на „свет“.

Делать вид, что мы этого не замечаем, значит уподобляться страусу, прячущему голову под крыло.

Как же реагировать? Не ставить же дежурных для ловли этих, с позволения сказать, „товарищей“ на месте преступления. Да этого и не требуется. Кто докатился до заборной литературы, тот и в быту, в столкновении с товарищами проявит себя, покажет свое лицо. И что так происходит, об этом кричат заметки наших стенгазет.

Что-ж делать? Как только услышишь ругань или увидишь антисемитскую выходку, так и хватать за шиворот и тащить провинившегося в профком, если он член профсоюза, или в бюро ячейки, если он комсомолец? Нет, это последняя мера, для неисправимых товарищей. А исправлять виновных должны мы сами коллективно, на каждом шагу, в общежитии, в широком смысле этого слова.

Ведь ясно, как дважды два четыре, что если товарищ замысловато и цинично выругается, обидит слабого, уязвит на национальной почве, и мы, окружающие его в тот момент, усмехнемся, одобрительно похлопаем его по плечу, то тем самым поощрим его к дальнейшим аналогичным поступкам.

Того же самого мы достигнем, если сделаем вид, что нас это не касается—„моя хата с краю, ничего не знаю“—подобную гнилую мораль старого мещанина, ярого индивидуалиста мы должны из себя вытравить.

Показать товарищу, что мы слышим, видим и порицаем его за грубую выходку. И он, не найдя в окружающих ни явного, ни скрытого сочувствия и поддержки, почуяв презрение, больше не отважится на поступок, который, оскорбив одного, тем самым наносит оскорбление всему коллективу. Так, нам кажется, коллектив должен исправлять отдельных своих товарищей. И тогда все меньше и меньше понадобится общественных, показательных процессов. Эти крайние меры оставим для особо злостных.

### „Горе без ума“

Есть иная группа врагов нашей культуры. Это те, кто бросают в записочках фразы вроде тех, что „общественная работа в ВУЗ‘е есть скрытая эксплоатация“, что „в эпоху господства материалистических идей всегда царил разврат и нравственное разложение“. Совершенно правильно поступили на диспуте товарищи, обрушившиеся на авторов этих записок. Ибо какую культуру понесет в массы этот „горе-общественник“, заблудившийся в правильном понимании исторических процессов, извращающий факты, резко говоря политически безграмотный.

Среди какого класса, каких слоев общества царил разврат в эпоху предшествовавшую Великой Французской революции, в эпоху рождения французского материализма, идей Гольбаха, Дидро, Гельвеция. Разлагался нравственно класс, разлагавшийся экономически, т. е. феодальная верхушка, двор Людовиков и дворянство. Но все перепуталось в голове автора записки. Подлинное „горе без ума“.

* * *

Если одни считают общественную работу эксплоатацией, то другие недовольны „мелким (опять мелочь!) размером работы“. Кропотливая, тяжелая, ответственная работа по переустройству быта им не нравится. Им подавай каждый день революцию, „настоящую“, с баррикадами, уличным боями. Применение своим силам эти с широким размахом люди находят,—где-бы вы думали—в победах на „бабском“ фронте, употребляя их же выражение. Это те, кто после изрядного возлияния на вечеринке додумываются до приглашения „девочек“ „побаловаться“, Правда их немного, но и о них следует помнить.

### „Дела половые“

Половая распущенность молодежи—излюбленный козырь в руках наших врагов. И, надо сказать, что в погоне за лаврами, литераторы с великим усердием тасовали этот козырь, вернее подтасовывали.

Анкета же говорит, что никаких уродливых явлений в этой области у нас нет. Никаких *„промблем“* ставить не приходится. Нужны лишь практические мероприятия, которые окажут помощь студенчеству и, в первую голову, необходимо по примеру ряда Московских ВУЗ‘ов организовать ясли для детей студентов.

Необходимость устройства полезного учреждения мотивируется иногда несколько иронически так, что мы опасаемся, как бы студенческие организации не обратили на это должного внимания. Говорят, что ясли нужны для студенток, кои по неопытности и неведению анатомии и физиологии половой сферы сделались матерями.

Вряд ли подобные студентки существуют в стенах БГУ—я этим, конечно, не думаю никого оскорбить, наоборот, было бы странным и нелепым предположить, что учащаяся высшего заведения настолько невежественна. Лишь уродливое старое воспитание девушек могло приводить к фактам, подобным имевшему место в начале текущего столетия в Петербурге на женских акушерских курсах, когда на экзамене одна из слушательниц, подробно раз'яснив соединение половых клеток и дробление яйца, заявила экзаменаторам: „одного я не понимаю, как же сперматозоид проникает в тело женщины". Говорят, что от такой потрясающей наивности экзаменаторы растерялись. Подобная студентка в наше время была бы досадным анахронизмом и не для нее надо строить ясли.

Ясли нужны тем, кто еще в стенах ВУЗ'а построил семью и кто хочет плодотворно заниматься учебой, чему ребенок, разумеется, мешает.

## Бодрость есть...

Безусловно прав один из товарищей, выступавших на диспуте, когда он сказал, что мы часто не замечаем хороших, светлых сторон нашего быта. Они есть, их много, много больше, чем теневых. Мы знаем коллективную жизнь в ряде комнат общежитий, образцовую чистоту, „ядра быта", трату значительных сумм скудного бюджета на культурные надобности—в нашу задачу не входит перечислять все хорошее в нашем быту.

Мы должны подмечать плохие, темные стороны для того, чтобы с ними бороться.

А начав с ними бороться, мы победим.

Культурный быт построим.

# Бяз ружовых акуляраў*)

Тры тыдні таму назад, адбывалася Ўсебеларуская канфэрэнцыя пралетарскага студэнцтва. Удзельнікам канфэрэнцыі добра вядома, што пытаньні эканамічнага характару займалі даволі шмат месца. Тым часам у мясцовай газэце „Рабочий" (№ 62 ад 14 сакавіка) у справаздачы з канфэрэнцыі дапісчык паказвае, што пытаньні матар'яльныя не займалі ўвагі канфэрэнцыі, што матар'яльнае становішча студэнцтва значна палепшылася, што процант стыпэндыятаў перавышае 50 і што дэлегаты не скардзіліся на цяжкія ўмовы вучобы. Захоплены, відавочна, пэрспэктывай гонорару, дапісчык пісаў... А чытач (ня студэнт)—рабочы, партыйны і грамадзкі дзеяч, сябра гарсавету і г. д.—чытаў і радаваўся. Будучы чырвоны спэц, на якога ўскладзена шмат надзей, цяпер матар'яльна забясьпечаны, а гэта значыць, што падрыхтоўка яго да будучай дзейнасьці, у сэнсе кваліфікацыі і стану здароўя не пакідае жадаць нічога лепшага.

Мы не згаджаемся з гэтым бязгрунтоўным оптымізмам і пастараемся давесьці, што матар'яльнае становішча студэнцтва не палепшылася ў параўнаньні з мінулым годам, а некаторыя факты гавораць нават аб частковым пагоршаньні.

Пачнем з стыпэндыяў. У гэтым годзе процант стыпэндыятаў у БДУ каля 40%, а ня больш 50%, як паказана ў газ. „Рабочий". Паміж іншым у мінулым годзе гэты процант быў каля 44%. Нам кажуць, што процант стыпэндыятаў у нашай ВНУ'е большы чым у ВНУ-х РСФСР. Але трэба памятаваць, што ў нашай ВНУ'е і процант пралетарскага студэнцтва, патрабуючага стыпэндыю, большы.

Лік студэнтаў, уступіўшых у гэтым годзе ў БДУ, на 49% перавышае лік скончыўшых. І калі яшчэ прыняць пад увагу, што ў ліку ўступіўшых процант, патрабуючых стыпэндыю больш чым сярод тых, якія скончылі унівэрсытэт, дык зусім зразумела будзе, што павялічэньне агульнага ліку стыпэндый на 4% (у гэтым годзе. у параўнаньні з мінулым) ніяк ня сьведчыць аб паляпшэньні. Адносны-ж процант у гэтым годзе панізіўся. Да гэтага трэба дадаць, што шмат якія студэнты старэйшых курсаў, якія служылі ў мінулым годзе, пакінулі службу, бо апошнюю не магчыма злучыць з заняткамі, і заявілі свае правы на атрыманьне стыпэндыі.

Гэтак стаіць справа з колькасьцю стыцэндый; гэта паказвае, што становішча „en masse" прымушае жадаць шмат лепшага. Некаторая частка студэнцтва не атрымаўшы стыпэндыі, пакінулі унівэрсытэт, што не магло не адбіцца на соцыяльным складзе.

Ну, а якасьць? Якасьць 19 рублёў, а не 20, як піша паэт Звонак у сваім вершы „Вузавец" (літар. дадатак да „Сав. Беларусі" № 4). Памер нашай стыпэндыі складае 76% стыпэндыі маскоўскіх ВНУ. А хто-ж

---

*) Калі артыкул быў ужо набраны, мы атрымалі весткі аб тым, што Маскоўскі Губком ВКП прыняў шэраг пастаноў аб паляпшэньні матар'яльнага становішча студэнцтва. Гэта сьведчыць аб сваячасовасьці закранутых намі пытаньняў.

скажа, што кошт рэчаў першай неабходнасьці (хлеб, цукер, часам каўбаса ці масла), што ідуць на патрэбу менскіх студэнтаў, на гэтулькі-ж ніжэй за вартасьць прадуктаў у Маскве?

Нам кажуць, што ў Маскве студэнты плоцяць за інтэрнат, а ў нас гэтага няма. Але ў нас у інтэрнатах жыве толькі 50% стыпэндыятаў. Другая палова жыве на прыватных кватэрах і плата за кватэру, асьвятленьне, апал і камунальныя паслугі забіраюць большую частку бюджэту стыпэндыята і гэтым утвараецца розьніца ў становішчы самых стыпэндыятаў.

Памяшкальная плошча, якую студэнты займаюць у камунальных дамох у лік 30% нормы—невялікая. Невялікая і плошча, якую займаюць студэнты ў Жактах. Апошнія рознымі спосабамі стараюцца выпіхнуць студэнта, бо яго суседзтва ў Жакт'е „нерентабельно“.

Ня так даўно на сходзе Гарсавету з удзелам прадстаўніка Белжылсаюзу, Выканбюро дакладывала аб цяжкім становішчы студэнцтва ў кватэрным пытаньні. Гарсавет пастанавіў замацаваць за Выканбюро БДУ памяшкальную плошчу, якую займаюць студэнты ў дамох жылтаварыстваў. Аднак Белжылсаюз пасьля апратэставаў гэту пастанову, кажучы, што яго прадстаўнік, які быў на сходзе, „не в курсе дела“. Пратэст ня быў прыняты, але ці не паказвае гэты факт на тое, як далёка стаяць некаторыя арганізацыі ад прызнаньня патрэб студэнцтва.

Вельмі выразнай ілюстрацыяй матар'яльнага становішча зьяўляецца стан здароўя студэнцтва. Чым старэйшы курс, тым процант хворых большы, а гэта сьведчыць аб прыдбаньні хваробы ў ВНУ. У гаспадарчай акадэміі ў Горках, на апошнім курсе процант хворых даходзіць да 80, а ў БДУ 60%. Большасьць хварэе на тубэркулёз, анэмію, нэўрастэнію—вынік усіленых заняткаў пры недаяданьні. Ці нам патрэбны спэцыялістыя інваліды?

Пяройдзем да дробязяў. У мінулым годзе студэнт атрымліваў штомесяц два талёны ў лазьню, у гэтым—адзін. Шмат якія студэнты не зьмяняюць бялізны па тры, чатыры тыдні, а пасьцельную мяняюць раз на сэмэстр. Прычыны? Няма грошай на праньне. Апошняе больш датычыць студэнтаў, бо студэнткі самі займаюцца праньнем. У гэтым годзе стыпэндыятам ня далі права карыстацца скідкай у 75% пры праезьдзе чыгункаю. Ці ў нас мала было эксцэсаў, у аснове якіх было крытычнае становішча з выездам на канікулы?

Гэткая дробязь, як ліквідацыя конкі, і тая выцяла па кішані, бо, калі раней студэнт, каб з'эканоміць на падэшвы, езьдзіў з канца ў канец за 6 кап., дык цяпер гэта прыемнасьць недаступна, бо праезд на аўтабусе каштуе 16 кап.

Змаганьне за кожны рубель на патрэбы студэнцтва ідзе штодня, Выканбюро БДУ ў гэтым змаганьні атрымоўвае перамогі і церпіць няўдачы. Мы можам вінаваціць Выканбюро толькі ў тым, што ў гэтай працы яно мала зьвяртаецца за падтрыманьнем да масы. Апошняя ня ведае, ці лепш—вельмі мала ведае, аб усіх тых цяжарах, якія трэба перанесьці, каб дайсьці да самага малога палепшаньня. У дадатку і савецкая грамадзкасьць, як вышэй паказана, інфармуецца, часам, няправільна, а гэта робіць работу Выканбюро цяжкай.

Каштарыс на палітасьветную працу быў заяўлены на 5000 рублёў у год. Зацьверджана 1800 руб. У выніку клапотаў, перамоў і настойнасьці Выканбюро, каштарыс павялічан да 4000 руб.

На лазьню, напрыклад, было дадзена 250 руб.(!) на год. Дамагаліся назначэньня гэткай сумы на месяц. У мінулым годзе на экскурсыі прызначана 2000 рублёў, у гэтым годзе—1200 руб.

Дапамога ад прафсаюзаў замалая. Ці можна, напрыклад, назваць здавальняючай суму—50 руб. у месяц, якую дае ЦП Саюзу Мэдсанпрацы, як матар'яльную дапамогу для 708 студэнтаў.

Трэба на ўсё гэта зьвярнуць увагу грамадзкасьці. Пры ўмовах цяперашняга матар'яльнага становішча, змаганьне за здаровы быт ня дасьць належных вынікаў.

Зблiжаецца час заявы каштарысаў на будучы год і мы маем права чакаць павялічэньня асыгновак на студэнцтва.

Мы супроць „кампаніі" дапамогі студэнцтву!

Мы за штодзённыя ўважлівыя адносіны да яго патрэб.

Мы за здавальненьне гэтых патрэб.

---

**І. Ман**

## Як мы вучымся

Дыскусія і абгаварэньне чарговых задач партыі адцягнула ўвагу ад палітвучобы; прадаўжалася гэта да паловы лістападу, калі пачалося камплектаваньне груп па палітвучобе.

Групы былі ўкамплектаваны паводле прынцыпу добраахвотнасьці, у сэнсе выбару гуртка, але з абавязковым удзелам камсамольца ў вадным з абраных ім гуртkoў.

У арганізаваных 15-ці гуртках займаецца 446 чал. Апрача гэтага, ў гуртку „Прыродазнаўства і Марксызм" займаецца 17 чал. Беспартыйных па ўсіх гуртках 19 чал. Справа з кіраўнікамі спачатку была не наладжана, але з дапамогаю парт ячэйкі адпаведны склад кіраўнікоў быў падабраны, і праца пачалася.

Да зімовых вакацый у сярэднім было распрацавана па дзьве тэмы з рэкамэндаваных яч. КП(б)Б. (Партыя і апазыцыя, савецкае і гаспадарчае будаўніцтва, дзьве тактыкі ў рэвал. руху і г. д.).

Трэба сказаць, што адносяцца да палітвучобы камсамольцы „з прахладцам" асабліва з калектыву мэдфаку. Ёсьць „Іваны няпомнячыя", якія часам забываюць, калі будуць заняткі. Выкліканыя на бюро, такія таварышы знаходзяць розныя адгаворкі (пісала запіскі лекцый, быў заняты, а чым не памятаю і г. д.).

Падрыхтоўка да канфэрэнцыяў слабая, што тлумачыць і слабую актыўнасьць на іх. Кіраўнікі прымушаны, часам, „цягнуць за язык", каб выявіць веды камсамольцаў. Нават актывістыя часам блытаюцца ў такіх простых пытаньнях, як асноўныя пастановы партыі ў адносінах да вёскі, адказваючы, што гэта „пераход на шматпольле і павялічэньне грамадзкай запашкі".

Камсамольцы, каторыя ня бралі ўдзелу ў дыскусіі, разьбіраюцца слабей у чарговых задачах партыі; ёсьць выпадкі, што і зусім слаба арыентыруюцца і, нават, пасуюць перад пытаньнямі з боку беспартыйных, пачынаючы адказ: „вообще—наконт прычын непадрыхтаванасьці", і г. д.

Робячы з усяго гэтага вывад, мы спыняемся толькі на агульных недахопах; надалей прыдзецца выяўляць факты і „жывых людзей" не разумеючых справы падрыхтоўкі з сябе лепшага працаўніка.

Бюро калектываў павінны ўжыць меры да ажыўленьня палітзаняткаў, падняць зацікаўленасьць у падрыхтоўцы да конфэрэнцыяў, абгаварыўшы з кіраўнікамі мэтад ажыўленьня палітвыхаваўчай працы.

Трэба ўжыць пэўныя меры ў адносінах да тых т. т., каторыя неакуратна наведваюць заняткі; калектыў праўгасу ўжо пачаў гэта рабіць—чарга за іншымі!

**М. Баран**

# Вопросы партпросвещения в БГУ

Партийное просвещение в БГУ, в этом году, овладело новыми позициями. В сеть кружков по партпросвещению вовлечены почти все члены и кандидаты партии, а также комсомольцы. Во многие кружки вовлечены также и активные беспартийные общественники.

Нет нужды особо указывать на необходимость и целесообразность особой сети партпросвещения в стенах БГУ. Учебные программы не в состоянии удовлетворить потребность студентов партийцев и комсомольцев в области повышения политического уровня. Партучеба для большинства партийцев стала не обязанностью, а необходимостью.

Темы, разработанные за текущий год в кружках партпросвещения, соответствовали поставленной выше цели. Особое место среди этих тем занимают вопросы XV партс'езда, разработке которых уделено исключительное внимание.

Но, вместе с тем, ряд недочетов в работе кружков вызывает необходимость постановки некоторых вопросов, требующих в дальнейшем своего разрешения.

Кружки в основном укомплектованы по принципу принадлежности к партии, или к комсомолу. В соответствии с этим намечается план тем. Для кружков, укомплектованных преимущественно партийцами, даются более квалифицированные темы.

Практически этот принцип не всегда целесообразен. Нельзя отрицать, что среди комсомольцев имеются весьма политически развитые товарищи и, пожалуй, не уступающие в этой области, многим партийцам. Требование о предоставлении им более квалифицированных тем не может не быть признано справедливым.

Одновременно надо отметить, что для ряда партийцев разрабатываемые в кружках темы не соответствуют уровню их политразвития.

Это положение может вызвать возражения, что в неусвоении партийцами той или иной темы не столь уж виновата сложность ее, сколько нежелание поработать над ней. При этом выдвигается весьма резонное указание, что партиец БГУ—к тому же студент.

К сожалению, такое возражение может быть обосновано только теоретически. На практике положение таково, что многие студенты-партийцы по ряду причин не в состоянии уделять много внимания поднятию своего политуровня. Этому вина—обстановка; материальная необеспеченность и, в связи с этим, необходимость подыскания службы; многопредметность учебных программ, партийная и общественная нагрузка, или, правильнее выражаясь, „перегрузка" и ряд других, неизвестных другим слоям студентов, причин.

Надо открыто заявить, что требование партии к ее членам о повышении политического и академического уровня встречает на пути его осуществления много препятствий. Виной этому—указанные выше причины.

При таком положении, в целях наилучшей организации и поднятия продуктивности сети партпросвещения, необходимо ее перестроить, исходя из уровня политической подготовки того или иного партийца и комсомольца.

Этим, конечно, ограничиться нельзя. Стабилизировать дифференциацию в политуровне студентов-партийцев—недопустимо.

Прежде всего необходимо обеспечить периодическое ознакомление студентов-партийцев с текущей политикой. В этих целях, надо усилить наше внимание к читальням, расположенным, как в стенах университета, так и в общежитиях.

Читальни должны быть лучше, чем до сих пор, обставлены. Надо увеличить количество выписываемых экземпляров газет: „Правда", „Экономическая Жизнь", „Известия", „Звезда". Количество выписываемых политических журналов также должно быть увеличено.

Необходимо задуматься над методами устройства бесед по вопросам текущей политики. Эти беседы отнюдь не должны носить казенный характер. Вполне целесообразно вызвать споры (конечно не искусственно) по тому или иному вопросу, что заставит товарищей пошевелить мозгами.

Тематические программы кружков по партпросвещению громоздки. Рекомендуемая литература весьма обильна и, к тому же, во многих случаях страдает качеством. Это осложняет подготовку партийца к конференции. Вполне целесообразно и возможно и здесь придерживаться ленинского правила: „лучше меньше, да лучше".

Я, конечно, особо не затрагиваю таких организационных недочетов, как отсутствие достаточного учета посещаемости кружков, успеваемости отдельных товарищей, нерегулярного созыва конференций из-за неявки руководителей или членов кружков. Все это, конечно, должно быть немедленно устранено.

---

**А. Шматкоў**

# Наконт аднэй задачы

Час ужо блізіцца к вясьне. А разам з вясною падыходзіць і выпуск студэнтаў з унівэрсытэту. Дзесяткі маладых спэцаў, прайшоўшых праз навуковы і грамадзкі гарт унівэрсытэту, уліваюцца ў гушчу рабочых і сялян. Камсамольская моладзь—як і ўсюды—і тут ідзе наперадзе, пракладаючы шлях пад кіраўніцтвам партыі на практычнай працы па сваёй спэцыяльнасьці.

Уся справа вучобы—выхаваньня пастаўлена пры сучасных умовах больш-менш добра, але... за выключэньнем. Ёсьць адно пытаньне, якое мала ставіцца ў студэнцкіх колах, гэта—„Дзе працаваць?“ Запытайцеся цяпер любога камсамольца, любога беспартыйнага:—„Дзе хочаш працаваць?“ і вы зараз пачуеце адказ: „у горадзе“.

А пасьля сканчэньня курсу ў навучальнай установе, колькі пачынаецца хадайніцтваў па камітэтах ЛКСМ, па знаёмых, колькі сардэчных просьбаў з падборам усякіх добрых і благіх прычын, абы толькі застацца ў горадзе, хаця-б на працы і не па сваёй спэцыяльнасьці Некаторыя нават так адрываюцца ад жыцьця, што ўсякае месца па-за Менскам ім здаецца непралазным балотам. Вазьму прыклад: Аднаго таварыша, які скончыў Пэдфак у мінулым годзе, пасылалі на працу ў Полацкі пэдтэхнікум; ён, аднак, адмовіўся, матывуючы гэта тым што ён „ни хоча ехаць на вёску“(!). У яго гістарычны горад стаўся вёскай. Яшчэ адзін—пэдфакаўка, скончыўшая 2 гады таму назад, стэнаграфуе лекцыі ў унівэрсытэце—дабывае кваліфікацыю стэнаграфісткі, каб папасьці на службу ў Менскую ўстанову; на запытаньне—чаму не працуе па спэцыяльнасьці,—хуткі і насьмешлівы адказ: „Што, я ў 7-годку паеду!?.“

А колькі камсамольскіх „Да я не магу ехаць... Я ўжо працаваў... Я проста не хачу...“ і таму падобных адказаў і адмоваў ад паездкі на вёску. Ды гэта, бадай, і яшчэ будзе. Варта кожнаму з нас паставіць перад сабою гэтае пытаньне, як мы знойдзем у сабе „ўнутранага ворага“—супярэчнасьць і нежаданьне паехаць на вёску.

Ці нармальна гэта? Мы скажам, як калектыў, што не, а кожны паасобку - яшчэ падумаем... У гэтым наша вялікая бяда, асабліва моладзі. Паставіўшы гэтую задачу, ня цяжка зразумець, што погляд „тварам ад вёскі“—кепская рэч. Камсамолу прыпадае тут вялікая роля перадавіка ў зьнішчэньні гэтага шкоднага погляду і ў нас самых і ў беспартыйных. Ворага трэба біць і ня гледзячы на тое, што ён сядзіць і пад нашымі ўласнымі чарапамі.

Мы павінны памятаць, што дзеля таго каб прылучыць вёску да сацыялістычнага будаўніцтва—трэба падняць яе культуру. Наша унівэрсытэцкая моладзь на чале з камсамолам павінна быць у першых шэрагах барацьбітоў за новую, культурную вёску. Камсамол павінен зьнішчыць тэндэнцыю „выкручваньня“ ад вёскі. Нам патрэбны новыя людзі. Такія, каторыя ведалі-б вёску, ведалі-б мэтавую ўстаноўку і практычны шлях разьвіцьця яе, а дзеля гэтага вёска павінна забіраць ад нас ня менш увагі чым горад.

І так—супроць чыноўніцкай тэндэнцыі ў адносінах да вёскі. На барацьбу за яе ўздым праз адданую працу падрыхтаваных людзей!

**І. Кубан**

# Аб вучоце

Вельмі часта ад Дэканатаў і Прафкомаў патрабуюць такіх вестак, якіх яны ў даны момант даць ня могуць, напрыклад: патрэбны весткі аб сацыяльным, матар'яльным становішчы студэнтаў, аб студэнтах пераведзеных, астаўленых на другі год і выключаных, тады як такіх вестак у дэканатах няма, ды і ня можа быць пры такой пастаноўцы вучоту, якая існуе ў Унівэрсытэце. Аднак, ня гледзячы на гэта, ад дэканатаў весткі вымагаюцца, і, хочаш ня хочаш, прыходзіцца іх даваць. Такое зьявішча прывяло да таго, што дэканаты, кожны на свой лад, пачалі заводзіць вучот фармальнай пасьпяховасьці. Само сабою разумеецца, што такая форма вучоту можа і здаволіць факультэт, але яна ні ў якім разе ня можа здаволіць Праўленьне і Выканбюро, бо формы вучоту на факультэтах розныя і параўнаць іх паміж сабою немагчыма. Да і наогул трэба сказаць, што ў У-це статыстыка кульгае на абедзьве нагі: вельмі часта бываюць такія выпадкі, калі весткі дэканатаў аб колькасьці студэнтаў значна розьняцца з весткамі Праўленьня. Магчыма што тут апраўдваецца прыказка „шавец бяз ботаў, а кравец без штаноў“, бо чым другім аб'ясьніць такія нядбайныя адносіны да вывучэньня таго матар'ялу, які Ун-т апрацоўвае, тады як той-жа Ун-т дакладна вывучае многія пытаньні нашага жыцьця. Ня лепш стаіць справа і ў Выканбюро, але тут ужо відаць, выяўляюцца законы спадчыннасьці: „які бацька, такі і сын“ Надыходзіць пара справаздач і інфармацый і на Прафкомы пачынае сыпацца мноства форм, па якіх яны павінны даць весткі; але ніхто не падумае аб тым, ці могуць даць Прафкомы дакладныя весткі паводле гэтых форм, таксама як ніхто ня думае аб тым, адкуль возьмуць Прафкомы гэтыя весткі,—з столі ці з падлогі,—усё залежыць ад таго, якая прывычка ў сакратара Прафкому: глядзець угару ці ўніз. Да гэтага часу Выканбюро, як і Праўленьне, не паклапацілася апрацаваць адзінай формы вучоту.

Тут могуць сказаць, што як-бы там ня было, але Выканбюро і Прафкомы пры кожнай сваёй справаздачы маюць лічбовы матар'ял па ўсіх пытаньнях. Што праўда, то праўда, але які гэта матар'ял, то ўжо прыходзіцца падумаць. Мне прышлося бачыць і такі выпадак, калі па справаздачы аднаго з Прафкомаў агульны лік студэнтаў прафсэкцыі быў меншы, чым агульны лік яе па нацыянальным складзе. Калі такім матар'ялам карыстаецца і Выканбюро, то магчымы розныя выпадкі, і выпадкі гэтыя залежаць ад прывычкі сэкратара Прафкому—глядзець угару ці ўніз.

Мая прапанова: Праўленьне і Выканбюро павінны распрацаваць кожны для сябе, а калі можна, то і адну сыстэму—форму вучоту.

Форма вучоту павінна быць такой, каб можна было скора падлічваць тыя ці іншыя даныя. Зьмяніць форму вучоту могуць толькі Праўленьне ці Выканбюро, кожны па сваёй галіне, а калі сыстэма вучоту будзе адзінай, дык толькі Праўленьне.

Правесьці барацьбу з трэбаваньнем вестак, якіх няма ў распрацаванай форме. Сыстэму і форму вучоту распрацаваць і разаслаць па факультэтах не пазьней 1-шай паловы красавіка, з тым, каб ужо з восені можна было пачаць вучот па сыстэме і даць дакладныя весткі да справаздач, Прафкомаў Выканбюро і Праўленьняў.

**Юнк**

# За фізкультуру

Часта „фізычную культуру“ разумеюць толькі як гімнастычныя і спартыўныя практыкаваньні, гульні і другія мерапрыемствы так званага актыўнага парадку. Правільнае-ж разуменьне гэтага тэрміну ўключае яшчэ і мерапрыемствы пасыўнага парадку. Да апошніх належыць выконваньне гігіенічных правіл, а таксама і скарыстаньне сіл прыроды: вады, паветра, сонца. Апроч гэтых сродкаў удасканаленьня арганізма чалавека, у фізкультуру ўключаюцца яшчэ і калектыўныя рытмічна-плястычныя рухі: фігурныя маршы, скокі (не факстротнага характару), карагоды ды інш.

Такая фізычная культура запраўды аздараўляе, удасканальвае арганізм чалавека, выпраўляе ягоныя недахопы, разьвівае карысныя фізыка-псыхічныя якасьці байца, працаўніка, папулярызуе пачаткі ортобіотыкі, трымае чалавека ў стане бадзёрага, радаснага самаадчуваньня.

Такая фізычная культура ёсьць неабходная для кожнага працоўнага і, значыць, для кожнага пралетарскага студэнта.

Такую фізкультуру і праводзіць (па меры сваіх сіл, уменьня і магчымасьці) наш студэнцкі фізкультгурток.

Гурток імкнецца абхапіць сабою як найбольшую масу студэнцтва, і дае яму ўсё неабходнае для фізкультзаняткаў. А між тым... між тым мы маем вельмі і вельмі мізэрныя лічбы: у БДУ вучыцца звыш 3000 чалавек, а ў спортгуртку лічыцца каля 100 чал. На 30-35 студэнтаў прыходзіцца толькі адзін фізкультурнік, які рэгулярна, арганізавана займаецца фізкультпрактыкаваньнямі.

Ї гэта ў той час, калі на Захадзе, у буржуазных унівэрсытэтах, няма ніводнага студэнта, ніводнай студэнткі, якія-б не займаліся спортам. Гэта ў той час, калі ў нямецкіх унівэрсытэтах вучыцца „простакі гвардыя“, па словах нашага паваж. праф Васілейскага, які назіраў гэтую гвардыю. Такою яна зрабілася галоўным чынам дзякуючы спорту і гімнастыцы. Гэта лепшыя абаронцы свайго ладу, сваёй буржуазнай дзяржавы.

Але няўжо-ж мы горшыя за іх? Бязумоўна, не. Мы павінны быць лепшыя, альбо прынамсі, такія-ж як і яны, і ў гэтых, фізычных адносінах. Мы павінны і тут мець перавагу над буржуазнымі студэнтамі, бо нам прыдзецца ня толькі абараняць нашу пралетарскую дзяржаву, але і будаваць новую, камуністычную гаспадарку, быць і байцамі і будаўнікамі.

Ї мы да гэтага рыхтуемся. Але няма чаго хавацца, не заўсёды старанна і, нават, не заўсёды сьвядома. За гэта гаворыць і вышэйпаданыя лічбы і тыя адмовы, якія ўжываюцца многімі студэнтамі, калі ім прапануюць уступіць у спортгурток. Дарэчы, разьбярэм гэтыя адмовы.

Найбольш ужываецца: „Няма часу. Ї так заняты“. Добра. Але няўжо-ж нельга раніцою аддаць толькі 5 мінут на „зарадку“ плюс 5 мінут на абціраньне вадою? Вядома, можна. Праўда, гэтага яшчэ мала, але і гэта ўжо „выканаиьне доўгу перад сваім фізычным „я“, як кажа славуты

гімнаст Мюлер, з пяцімінутнай сыстэмай якога не пашкодзіла-б пазнаёміцца кожнаму студэнту[1]). Кажуць яшчэ, што студэнт за дзень вучобы нагэтулькі зморыцца разумова ды фізычна, што яму не да фізкультуры. На гэта адкажам словамі праф. Нечаева, які ня раз выказваўся па гэтым пытаньні. Ён гаворыць: „... фізычныя практыкаваньні, зьніштажаючы шкодныя вынікі разумовай працы, павінны садзейнічаць агульнаму абмену матэрыі ў арганізьме і тым самым ня толькі павялічваць разумовую працаздольнасьць, але і садзейнічаць...“ і г. д. („Труд, просвещ. и физкульт.“ выд. „Ценпрос“ ст. 29). Вывад ясны.

Часам прыводзяць і такія довады: „я і так здаровы, мне фізпрактыкаваньні і спорт не патрэбны“. Але-ж мы ведаем, што кожная дасканаласьць павінна яшчэ больш удасканальвацца. Нарэшце, кажуць што гурток ня здолее абслужыць масы студэнцтва, што і цяпер ужо відаць гэную немагчымасьць задаволіць усіх студэнтаў і г. д. Магчыма. Але і гэтага можна ўнікнуць, унікнуць сіламі ўсёй масы ўступіўшай у гурток, бо творчае начала яе будзе мацнейшае за такое-ж тых адзінак, якія ў запраўднасьці і складаюць цяпер некалькі груп нашага спортгуртку. Высоўваюць і іншыя „довады“, але ўсе яны таксама ня грунтоўны, як і толькі што пералічаныя.

Магчымасьці для фізычнага ўзмацненьня, загартаваньня, у нашай школе ёсьць.

Было-б толькі жаданьне!

---

**Алесь**

---

# Сакратар абяцае

Калектыў ЛКСМ на пэдфаку—калектыў як трэба быць. А ў калектыве ўсё калектыўнае—як у працы, так і ў яе асьвятленьні.

Так і абяцаў паважаны сакратар (яшчэ за паўтара месяцы!) асьвятліць у часоп. „Шлях Студ.“ жыцьцё і выхаваньне новых выхавальнікаў і працаўнікоў.

Але „абяцанка—цацанка“... Паабяцаў, і для сакратара хопіць... На тое ён і сакратар, каб да яго ня было прэтэнзіяў. І каму толькі чаго сакратар не абяцае, а выконваць—агульная справа.

Так, агульная справа, і замест таго, каб абяцаць,—ці ня лепш было-б арганізаваць гэтую справу? У сакратара-ж і ініцыятыва, і калектыў на дапамогу да яе, і „лейцы“ ў руках. . . .

. . . .

Няведама, ці так ці не была справа, але ў рэшце—калектыў пэдфакаўскі на старонках часопісі ня высьветлен; абяцае сэкратар: у наступным нумары...

Ну, што-ж, пачакаем. Кажуць (народная мудрасьць, яна, брат, ого!), што абяцанага тры гады чакаюць.

---

[1]) У наступным № 6 будзе зьмешчана сыстэма 5-ці альбо 10-ці мінутнай „зарадкі“.

Гарэлік і Панкоў

## Моманты з працы яч. Осоавіахіму

Задачы вайсковае падрыхтоўкі студэнцтва праз увязку вайскова-акадэмічнай працы факультэтаў з практычнай працай гурткоў Осоавіахіму ў нашым унівэрсытэце вырашаны.

На сёньняшні дзень ячэйка налічвае ўжо 974 чал. Уся вайсковая культурна-асьветная праца праводзіцца праз гурткі, якія падзяляюцца: на стралковыя (на кожным факультэце), вайскова-хэмічныя, навуковы (на пэдфаку) і хэматрад (пры агульным бюро і на рабфаку).

У гуртках праводзіцца азнаямленьне з атрутнымі газамі, іх нэйтралізацыяй, газасховамі і іх будаваньнем, і г. д. (плянэрн., сувязь і інш.) Заняткі ў гуртках праводзяцца па праграме, распрацаванай у пачатку года. Заняткі гурткоў праводзяцца сыстэматычна, але наведваюць іх ня вельмі акуратна (у сярэднім—да 50%).

Дзякуючы зацікаўленасьці з боку большай часткі акуратна наведваючых сяброў, праца некаторых гурткоў пастаўлена добра, асабліва плянэрнага гуртка, каторы мае майстэрню з неабходнымі прыладамі і будуе плянэр ды мадэль аэрапляну, якія і будуць зараз скончаны.

На кожным факультэце працуюць вайсковыя куткі, якія апрача паглыбленьня вайсковых ведаў, праз арганізаваны даведачны стол даюць і розныя даведкі па вайсковых пытаньнях і па пытаньнях працы ячэек Осоавіахіму.

Ячэйка падрыхтавала кадр інструктароў, якія ўзяты на вучот Цэнтр. Саветам і пасылаюцца ў часе вакацый на вёскі і акругі для ўзмацненьня там працы. За гэты час у падшэфных вёсках арганізаваны 2 ячэйкі Осоавіахіму, якія маюць 72 сяброў. Арганізаваны два стралковыя гурткі і два стрэльбішчы (тыры). Вызначаны кіраўнікі і паслана літаратура.

Галоўныя недахопы ў працы ячэйкі—гэта: слабое наведваньне заняткаў і адсутнасьць дысцыпліны. Праз гэта заняткі часам праводзяцца слаба, або зусім зрываюцца. Слабая актыўнасьць факультэцкіх ячэек перашкаджае наладзіць плянамерную працу. Так, напрыклад, кампанія перавыбараў бюро была сарвана, таму што ніяк не ўдалося сабраць сяброў ні на водным факультэце, дзякуючы чаму перавыбары бюро не адбыліся і да гэтага часу.

Гэтыя і іншыя недахопы можна зьнішчыць пры сьвядомых, вайскова-актыўных адносінах да працы і пры падтрыманьні гэтае працы з боку ўсяе масы студэнцтва.

**Т. Гурвіч**

# На першым месцы... з канца

*(Некаторыя вынікі Усебеларускіх стралковых спаборніцтваў)*

Да 10-ці гадовага юбілею Чырвонай арміі ЦБ Пралетстуду Беларусі наладзіла Ўсебеларускія стралковыя студэнцкія спаборніцтвы.

Што гавораць нам вынікі гэтых спаборніцтваў?

Стралковы спорт, ня гледзячы на асаблівую зацікаўленасьць значнай часткі студэнцтва, у навучальных установах не стаіць на адпаведнай вышыні. Стралковая справа не арганізавана належным чынам, стралковыя гурткі пакуль яшчэ больш займаюцца „тэорыяй", замест таго, каб выконваць сваю непасрэдную і першачарговую задачу—практыкавацца ў страляньні. Мы назіраем такія зьявы, што студэнт зьяўляецца на заняткі стралковага гуртку толькі тады, калі яму ў рукі даюць вінтоўку і кулі, гэтым-жа тлумачыцца той факт, што сярод усіх гурткоў вайсковых ведаў першае і пачэснае месца займаюць стралковыя. Аднак, студэнцкія арганізацыі не зьвярнулі ў гэты бок яшчэ ўвагі,—стралковыя гурткі пакуль на задворках.

Усебеларускімі студэнцкімі спаборніцтвамі ахоплена каля 700 студэнтаў; па навучальных установах, якія праводзілі гэтыя спаборніцтвы, удзельнікі складаюць у сярэднім 10—12% ад агульнага ліку студэнцтва. Гэта вельмі і вельмі мала, асабліва калі ўзяць пад увагу, што некаторыя навучальныя ўстановы аказаліся зусім непадрыхтаванымі і ня бралі ўдзелу ў спаборніцтвах.

Камуністычны У-т імя Леніна і БДУ, што да абхопу студэнцтва стралковымі спаборніцтвамі, прадстаўляюць сабою значнае выключэньне з ліку іншых навучальных устаноў; абодва знаходзяцца на процілеглых полюсах. Камвуз ідзе першы і мае звыш 86% студэнцтва—удзельнікаў спаборніцтваў (ня бралі ўдзелу толькі хворыя і нябытныя ў Менску) БДУ ідзе таксама першым, але з канца. Спаборніцтвамі ахоплена фактычна менш 1% студэнцтва.

У першых радох па якасьці стральбы аказаўся Бел. Дзярж. Вэтэрынарны Інстытут у Віцебску; мы маем там 100% пападаньня і 46 пунктаў у сярэднім на кожнага ўдзельніка. У мурох Віцебскага Вэт. Інстытуту аказаўся лепшы студэнт-стралок БССР, які выбіў 78 пунктаў з 100 магчымых пры дыстанцыі 50 мэтраў - Фёдараў Мікола. На другое месца ў спаборніцтвах вышаў таксама студэнт Вэтэрынарнага Інстытуту т. Чарпіла, які выбіў пры тых-жа ўмовах 77 ачок, і 3-ае месца заняў студэнт Фізыка-Матэматычнага аддзяленьня Пэдфаку БДУ тав. Галыцкі-Цьвірко, заваяваўшы сабе 76 ачок. Сярод жанчын, якія, між іншым, па БДУ зусім ня бралі ўдзелу, трэба адзначыць студэнтку Менскага Белпэдтэхнікуму Казак Ліду—35 пунктаў на 50 магчымых пры той-жа дыстанцыі.

Чаму Бел. Дзярж. Унівэрсытэт, найбуйнейшая Вышэйшая Навучальная Установа БССР, аказаўся як калектыў на апошнім месцы? Чаму на Ўсебеларускім конкурсе бралі ўдзел усяго 26 асоб і, нават, у тым ліку

1 ня студэнт, ня гледзячы на тое, што спаборніцтвы былі выключна студэнцкія?

Адказ вельмі просты... У БДУ навакол гэтага, маючага асабліва важнае значэньне, мерапрыемства ня было створана грамадзкае думкі студэнцтва, ня было нават абвесткі аб спаборніцтве, якое, падкрэсьліваем, было наладжана з прычыны юбілею Чырвонае Арміі. Мы ўпэўнены, што маса студэнцтва і цяпер ня ведае—дзе, калі і сярод каго праводзіўся гэты баявы агляд. Разам з гэтым трэба падкрэсьліць, што спаборніцтвы праводзіліся ў надзвычайна цяжкіх умовах. Студэнцкія стрэльбішчы (тыры) ня былі прыстасаваны да ўмоваў конкурсу,—прыходзілася страляць пад адкрытым небам. Мы маем шэраг паведамленьняў, што прыходзілася страляць пры 10 і нават 15 градусах марозу, пры бакавым ветры, але ўсё-ж стралялі, каб праверыць свае веды.

Наогул, вынікі спаборніцтваў сьведчаць, што студэнцтва ў стралковыя гурткі ўцягнена слаба, што стрэльбішчы нашы часьцей знаходзяцца пад замком, чым працуюць пры належным удзеле студэнцтва. Гэты від ваенізацыі трэба пашырыць.

Неабходна таксама лепш наладзіць працу і самых стралковых гурткоў, каб ня было такіх выпадкаў, як, напрыклад, у нас у БДУ, калі сябра стралковага гуртку ў м-ц атрымлівае для стральбы 8 - 9 патронаў. Пры гэткай „актыўнасьці" меткім стралком ня будзеш, а быць ім для пралетарскага студэнцтва—доўг, задача і абавязак.

---

**Зэт**

# Наша баявая падрыхтоўка

*(Хэмічны атрад БДУ)*

Трэба прызнацца адразу, што стан нашай баявой падрыхтоўкі ў хэматрадзе зусім не найлепшы. Прычыны гэтага: заняткі бываюць рэдка і даюць нам вельмі мала ведаў як тэорэтычных, так і практычных. Страляем мы таксама рэдка. Можна сказаць зусім пэўна, што спраўна валадаць вінтоўкай, некалькі гадзін пабыць у процігазавай масцы, даць першую дапамогу атручанаму газам – усё гэта зрабіць могуць далёка ня ўсе члены хэматраду. Прычына—слабая трэніроўка.

Дзеля гэтага і ўзьнікаюць сур'ёзныя запытаньні – а ці здолеем мы абараніць у патрэбе ад газавай атакі сябе і другіх? А ў тым, што такая патрэба можа быць—прыходзіцца спадзявацца ў такі неспакойны час, як наш. Асабліва калі прыпомніць, што жывем мы ў прыгранічнай паласе.

Ці можна спадзявацца на тое, што пры першай газавай атацы наш хэматрад БДУ не пакажа сваю поўную бязраднасьць? Калі мяркаваць паводле стану нашае агульнае падрыхтоўкі—не, ня можна.

Няхай мне супярэчаць (а такія, напэўна, знойдуцца), але супярэчаньні застануцца на словах, на справе-ж—мы не падрыхтаваны.

Вывад: ячэйка Осоавіяхіму БДУ, разам з нашым ваенным кіраўніком, павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на хэмічную і агульна-баявую падрыхтоўку нашага хэматраду, не адкладаючы гэтае справы на доўгі час.

---

**В. Гітліц і С. Малінін**

# Пра новыя формы культ-масавай працы

## Сядзім ды сядзім

На лекцыях мы сядзім! На сэмінарах—сядзім! У лябараторыях—сядзім... Мы сядзім у бібліатэках, аўдыторыях, габінэтах; нават у перарывах вялізная маса студэнтаў сядзіць!

Гэтак з вучобаю... А грамадзкасьць?—Сядзім на сходах, сядзім у камісіях; пасяджэньне—самае ходкае слова.

І ў часе вучобы і ў часе грамадзкае працы—мы задыхаемся, седзячы ў чатырох сьценах.

Як-жа праходзіць наш вольны час?

Вечар, даклад, дыспут, шахматы, кіно вядуць нас пад столь знаёмых калідораў, пакояў, залі...

І мы ізноў сядзім у атмасфэры ўласных выпараў.

І ня дзіўна пасьля гэтага, што сярод нас такі вялікі процант хворых, слабых, нэўрастэнікаў; падлічыць-жа бязьдзеяльных, напаўсонных, апатычных ніхто яшчэ і не спрабаваў.

Гэтая бесперарыўная сідня ёсьць бясспрэчная прычына профэсыйных хвароб студэнцтва.

## Пераацэнка вартасьцяй

Неабходна перабудаваць сыстэму нашай культ-масавай працы.

Мы можам культ. абслугоўваць студэнцтва ў чатырых сьценах будынку; тут у нас ёсьць практыка, кадр працаўнікоў, мэтады і формы працы; гэтым увесь час займаецца нашая грамадзкасьць.

Заданьне культ-адпачынку студэнта—нэйтралізаваць тыя профшкоднасьці, што ляжаць у аснове ягонае працы.

Арганізаваць студэнцтва на вуліцы, у полі, за горадам, у лесе пад адкрытым небам і прамяністым сонцам, прымусіць яго рухацца, глыбока дыхаць, накапляць сілу, здароўе, бадзёрасьць, энэргію.

Трэба ўзьняць жыцьцёвы тонус студэнцтва;—вось заданьне, якое стаіць перад стударганізацыямі. Гэтага ў нас яшчэ няма! У пляне палітасьветы Выканбюро, § аб мясцовым турызьме бясслаўна загінуў не дачакаўшыся свайго ажыцьцяўленьня.

Нават такія арганізацыі, як спорт і ОСО, не выяўляюць у гэтым кірунку патрэбнай актыўнасьці. Калі і былі паасобныя спробы (вылазкі на лыжах, мерапрыемствы юнсэкцыі, як напр., катаньне на лодках), усе яны яшчэ абсалютна не ўвайшлі ў наш быт і ў ніякай ступені не зьяўляюцца вагаром нашай культмасавай працы.

Акрамя вялікай карысьці ў сэнсе аздараўленьня студэнцтва, прапанована новае зьвяно масавае культурнае працы ў той-жа меры ажывіць ды павялічыць каштоўнасьць і зацікаўленасьць да ўсіх форм гэтае працы, ствараючы навакол іх новую сьвежую атмасфэру.

## Шырокія пэрспэктывы...

У „Комсомольской Правде“ 26/I-27 г. мы чытаем аб жыцьці рабочай моладзі захаду:

„Рабочая моладзь пакідае горад ня толькі ў дні канікул. Кожны тыдзень па суботах пасьля працы, ці ў нядзелю раніцай дзесяткі тысяч моладзі з сваімі „рукзакамі“ едуць цягніком, на вэлёсыпэдах, на чаўнох, ці проста пехатой ў аколіцы Бэрліна. Гэтаму масаваму ўцяканьню з гораду, амаль ня ў сілах перашкодзіць ні дождж, ні сьнег, ні холад, ні голад...“

У гэтыя дні, звычайна чопарныя вакзалы ажыўляюцца: ...„дарослыя рабочыя, моладзь, дзяўчаты прыяжджаюць і ад'яжджаюць. Кожную хвіліну цягнікі вывозяць з вакзалу тысячы рабочых“ („Комс. Пр.“ 13/I—27 г.).

Але гэта яшчэ ня ўсё.

Чытальні, шахматы, гутаркі, пасяджэньні розных арганізацый і другія моманты грамадзкага жыцьця амаль заўсёды, адбываюцца пад адкрытым небам, на вольным паветры, часамі нават, заняткі гурткоў і палітшкол у сьвяточныя дні, заграніцай (Нямеччына), выносяцца далёка за межы абрыдлага гораду. Гэта ўвайшло ў быт, у кроў рабочай моладзі захаду. У нас у СССР, пры агульным вялізным размаху культмасавай працы, яшчэ далёка ня ўсюды яна зьвязана з паветрам, прыродай і здароўем, гэтым бадзёрым, радасным асяродзьдзем, якое рассоўвае звычайныя, штодзённыя рамкі.

Праўда, вялікага разьвіцьця дасягнуў турызм і гульні на паветры, загароднія пагулянкі, паходы; але на вялікі жаль, нават і ў гэтым напрамку, мы яшчэ не выперадзілі нашых юных таварышоў—піонэраў, якія ідуць далёка наперадзе.

Моладзь не ацаніла яшчэ тае вялікае карысьці, якую абяцае нам прырода.

## Мы—студэнты

Ніколі ня позна вучыцца...

Зіму мы „праспалі“, нельга праспаць вясну і будучы год!

Выкарыстаць вялізную, каштоўную практыку ў справе пабудоўкі гэтай новай формы культ-масавай працы, практыку, што накапіла рабочая моладзь захаду; даведацца, што ў гэтым напрамку робіцца і зроблена рознымі арганізацыямі ў нашым Саюзе; неадкладна склікаць пры Выканбюро, ці ЦБ пралетстуда шырокі сход студэнцтва для сур'ёзнага абгаварэньня пастаўленага пытаньня, падняць навокал яго грамадзкую думку:—вось што мы павінны зрабіць зараз-жа.

# ВУЧЭБНАЕ ЖЫЦЬЦЁ

**І. Э.**

## Мэтодыка залікаў

Другі ўжо год мы ўсё разважаем над пытаньнем: як устанавіць праверку якасьці вучобы, якім павінен быць залік, каб ён перастаў быць лётарэяй, каб выявілася ня толькі „натасканность“, але і веды.

Падамо некалькі ілюстрацый залікаў, якім ён часта бывае. Група студэнтаў здае залік. Тут можна пачуць, што першы хто здае,—заўсёды „праходзіць“, або заўсёды „садзіцца“. Калі ў прафэсара куткі губ апушчаны—будзе масавая „пасадка“. Студэнт N рыхтаваў адзін дзень і здаў, бо бойка глядзеў у вочы прафэсару і вывучыў яго пытаньні. Другі, NN сядзеў над кнігамі, і зрэзаўся таму, што па характару ён чалавек палахлівы і адказвае запінаючыся. Кажуць, што павінен быць пэўны процант „пасадак“. І шмат-шмат яшчэ можа расказаць студэнт у якога ў заліковай кніжцы 40-50 запісаў.

Усё гэта гаворыць за тое, што самы мэтод залікаў студэнтамі не паважаецца: яны выконваюць гэта, як фармальную павіннасьць. І ёсьць шэраг вельмі добрых студэнтаў для якіх самы залік, а не падрыхтоўка да яго, каштуе шмат здароўя.

Шукаць карэньняў гэтага выключна ў экзаменатары нельга. Прафэсары самі адмоўна адносяцца да такога мэтаду праверкі і лічаць яго нездавальняючым.

Ніхто ня будзе пярэчыць, што настрой экзаменатара перадаецца студэнту і ад гэтага ў большасьці залежыць залік (мы маем на ўвазе падрыхтаванага студэнта). І калі „настрой“ бывае рэдка, то „асабсвыя якасьці“ заўсёды нязьменныя.

Як прыклад „асабовых якасьцяй“ возьмем прафэсара Мэдфаку Б., які на заліку вымагае, каб студэнт думаў у літэральным сэнсе слова так, як думае ён сам, каб сымптомы пералічаліся ў тым парадку, як ён хоча, каб прыводзіліся тыя ж параўнаньні, якія ён сам прыводзіць, будзь яны нават і далёка не дасьціпны. Пытаньне прафэсара тут можа нагадаць армянскую загадку: „што такое, калі хворы нічога ня чуе, а лекар нічога ня бачыць?“ І ў дадатак да ўсяго, калі студэнт памыляецца, ідзе грознае папярэджаньне: „Вы ўжо топіцеся... Вы ўжо ўтапіліся“...

Ня дзіва калі ўсе адмоўныя бакі заліку, пералічаныя вышэй, сустракаюцца пры здачы прадмету, які выкладаецца праф. Б. І мы ня зьдзівімся, калі студэнты запатрабуюць здачы заліку ў прысутнасьці прадстаўніка дэканату [1]).

Мы ўсё гэта абгрунтоўваем на фактах, якія здарыліся з студэнтамі, што лічацца лепшымі на курсе. Бо ніхто ня скажа, напрыклад, пра экзамен у праф. Т., што „студэнт зрэзаўся, бо яго зрэзаў прафэсар“, ня гледзячы на тое, што % „пасадкі“ ў апошняга параўнаўча вялікі. Наадварот, студэнт, студэнт які „сеў“ нават некалькі раз, усё-ж з некаторым здавальненьнем успамінае экзамен у праф. Т.

---

[1]) Наша дапушчэньне спраўдзілася: 6/IV—студэнты мэдфаку трымалі залік у проф. Б. пры камісіі.

Было-б зусім лішнім падаваць яшчэ далейшыя прыклады. Яны ўсім нам добра вядомы і кожны з нас можа аб іх шмат чаго расказаць.

Але як-жа падыйсьці да вырашэньня пытаньня, вострасьць якога мы адчуваем на кожным кроку.

Ніхто ня ўздумае пярэчыць, што праверка ведаў неабходна. А. Фортунатаў, яшчэ ў 1916 г. артыкуле: „О контроле студенческих занятий в высшей школе“—кажа:

„Представители государственных и общественных учреждений в праве требовать отчета о деятельности тех школ, которые устраиваются на народные средства. Государство и общественные учреждения *обязаны* требовать такого отчета. Не исключается другой мотив контроля—значения его для самой школы, для преподавателя и учащихся в ней“.

Падыходзячы да пытаньня аб мэтадзе кантролю А. Фортунатаў паказвае: „Контроль студенческих занятий может быть ограничен оценкой тех исследований, которые студент исполняет как активный деятель науки. В оценке студенческих работ и работ представляемых признанными членами академии наук, нам не видится никакой существенной разницы“.

„Мы ждем от оценки,—кажа ён далей,—ответа только на один вопрос: была иль не была в данном случае научная работа. Если научная работа была, мы считаем себя вправе засвидетельствовать об этом. Свидетельство, если хотите, можете назвать „зачетом“, совокупность зачетов составит то, что именуют „дипломом“ или „аттестатом“.

Выходзячы з нашай сапраўднасьці і, магчыма, з студэнцкай сьціпласьці, мы ня можам поўнасьцю далучыцца да пагляду цытаванага аўтара аб працы студэнта ў вышэйшай школе, як аб навуковай працы. Нам думаецца, што кантроль павінен высьвятліць, ці ўявіў сабе студэнт асноўныя элементы дысцыплін вывучаемых у вышэйшай школе, ці атрымаў ён навуковую адукацыю, і ці ўладае ён мэтадамі для далейшае дзейнасьці. І гэты кантроль сябе апраўдае, калі будзе ўведзена ў залік сыстэма тэстаў, задач, пісьмовых прац, выконваньне практычных заданьняў.

Пытаньне аб тым, як гэта зрабіць, што з сябе павінны выявіць гэтыя тэсты і як яны павінны праводзіцца—пытаньне спэцыяльнае і да яго мы вярнемся ў наступным нумары часопісі.

Паўтараем—пытаньне аб заліках—пытаньне хворае. Студэнты і прафэсура павінны знайсьці мэтазгодны мэтад праверкі ведаў. І аб гэтых мэтадах варта пагаварыць на старонках часопісі.

С. Радкевіч

# Аб рабоце навуковых гурткоў

*(Да вынікаў першай Усесаюзнай канфэрэнцыі па рабоце навукова-тэхнічных гурткоў)*

У гэтым артыкуле мы ня ставім сваёй задачай высьвятленьне стану і працы навуковых гурткоў БДУ; аб гэтым мы будзем пісаць у наступны раз. Цяпер мы лічым за неабходнае выясьніць агульны напрамак у працы гурткоў і пагутарыць аб тых прынцыповых зьменах у арганізацыйнай іх пабудове, якія вынікаюць з пастаноў I Усесаюзнай канфэрэнцыі па рабоце навукова-тэхнічных гурткоў (20—26 сьнежня 1927 году). Агульны напрамак працы, яе практычная ўстаноўка, павінны выходзіць з тых задач і мэт, якія ставяцца перад навуковымі гурткамі. Гэтыя задачы і мэты можна прывесьці, з большага, да 2-х грунтоўных момантаў, калі разглядаць у сумарным парадку; пры дэтальным разглядзе мы можам налічыць да 10 паасобных момантаў—задач.

Асноўнай задачай, на грунце якой і павінны працаваць гурткі, ёсьць задача—даць магчымасьць студэнцтву дапоўніць свае акадэмічныя веды праз паглыбленае вывучэньне той ці іншай галіны, альбо тых паасобных пытаньняў навукі, як тэорэтычнага, так і практычнага характару, якія найбольш цікавяць таго ці іншага студэнта.

Гэтаю задачай і павінна вызначацца мэтавая ўстаноўка ў працы кожнага навуковага гуртка.

Другім момантам—задачаю, якая ставіцца перад кожным навуковым гуртком, незалежна ад таго, па якой галіне навукі ён працуе, ёсьць унядрэньне, укараненьне ў сяброх гуртку матар'ялістычнага сьветагляду. Гурток, дзе навуковае выхаваньне пабудавана на мэтадах дыялектычнага матар'ялізму, павінен навучыць сваіх сяброў карыстацца гэтым мэтадам, як пры падыходзе да вывучэньня таго ці іншага тэорэтычнага пытаньня навукі, так і пры практычнай працы, і, урэшце, пры ўвязцы тэорыі з практыкай.

З гэтых асноўных момантаў выплывае шэраг задач больш практычнага зьместу, з якіх мы пакажам толькі на тры. Навука, як мы ведаем, не стаіць на адным месцы, а ідзе наперад; дзеля гэтага азнаямленьне студэнцтва з апошнімі найнавейшымі дасягненьнямі навукі і тэхнікі зьяўляецца досыць важнай задачай работы гурткоў. Праца па выкананьню навучальных плянаў часта не дае магчымасьці студэнтам набыць навыкі ў самастойнай навукова-дасьледчай працы, вось чаму навучаньне студэнтаў гэтым навыкам павінна займаць належнае месца ў працы гурткоў. 3-ці момант зьвязваецца з задачай вылучэньня з пралетарскіх кадраў студэнцтва кандыдатаў у навуковыя працаўнікі. Лепшым месцам для выяўленьня лепшых т. т., як з боку іх навуковай, так і з боку грамадзкай каштоўнасьці, могуць і павінны быць навуковыя гурткі.

Гэтымі асноўнымі задачамі да некаторай ступені вызначаюцца і арганізацыйныя прынцыпы гурткоў. Гурткі зьяўляюцца дабраахвотнай арганізацыяй; дзеля гэтага кожны студэнт які лічыць, што гурток ня будзе

яму перашкаджаць выконваць навучальны плян, можа быць сябром гуртка; з сказанага таксама вынікае і тое, што ў сэнсе арганізацыйным ніякай розьніцы, ніякіх рагатак паміж студэнтамі старэйшых і малодшых курсаў быць не павінна. Адсюль зразумела, што курсавы прынцып, які ў нас пакладзены ў васнову арганізацыі гурткоў, мусіць быць адкінены. Гэтае пытаньне на Усесаюзнай канфэрэнцыі асаблівых спрэчак ня выклікала і курсавы прынцып быў прызнаны неправільным.

Другі прынцып арганізацыі гурткоў у нас, а таксама і ў значнай колькасьці іншых ВНУ,—гэта прынцып прадметны. Выходзячы з гэтага прынцыпу ў нас былі гурткі: батанічны, хірургічны, матэматычны і г. д. Гурткі пабудаваныя на гэтым прынцыпе абхапілі сваёй працай усіх студэнтаў, жадаючых вывучаць даную галіну навукі, на якой будаваўся гурток.

Адмоўным бокам гэтай пабудовы зьяўляецца тое, што на адным факультэце можа быць некалькі дзесяткаў гурткоў, а калі возьмем ВНУ цалкам, дык лічба гурткоў можа дасягнуць да 100 (у Сельска-Гаспадарчай акадэміі ў Маскве налічвалася больш за 90 гурткоў). Такая колькасьць гурткоў, зразумела, не дае магчымасьці студэнцкім арганізацыям кіраваць іх працай. Навуковыя гурткі справа маладая, справа новая і без належнага кіраўніцтва іх працай мы ня толькі ня зможам атрымаць ад іх карысьці, а ў некаторых выпадках нават можам падрыхтаваць у гуртках людзей мала карысных, альбо нават і варожых.

Новы прынцып пабудовы гурткоў—прынцып факультэцкі, які пасьля доўгіх і гарачых спрэчак і быў прынят на канфэрэнцыі. Па гэтым прынцыпе мы будзем мець на факультэце 1 гурток, на чале якога будзе стаяць Праўленьне гуртка. Гурток у сваю чаргу, будзе разьбівацца на шэраг сэкцый паводле прадметнага прынцыпу; сэкцыя можа мець таксама сэмінары. Пабудова гурткоў па факультэцкім прынцыпе дасьць магчымасьць сканцэнтраваць кіраўніцтва ў праўленьні гуртка, што ў сваю чаргу, зьявіцца найлепшай гарантыяй таго, што праца гурткоў будзеісьці па правільным шляху.

Праўда, на тых факультэтах, дзе ёсьць некалькі аддзяленьняў, напрыклад Пэдфак, перабудаваць гурткі паводле факультэцкага прынцыпу цяпер будзе надзвычайна цяжка і тут, магчыма, прыдзецца часова будаваць гурткі па аддзяленьнях, альбо, найхутчэй, на 2-х сумежных аддзяленьнях.

Пытаньне аб прынцыпах арганізацыйнай пабудовы навуковых гурткоў надзвычайна сур'ёзнае і вымагае дэтальнага папярэдняга абгаварэньня. Мы лічым, што ў гэтым годзе нашы гурткі павінны закончыць сваю працу пры тэй пабудове, якая ў нас існавала дагэтуль і што толькі з наступнага навучальнага году трэба будзе прыступіць да перабудовы гурткоў паводле новага факультэцкага прынцыпу.

П. Я.

# Тое-сёе пра фізыку

Фізыка—навука, у першую чаргу, экспэрымэнтальная; увесь зьмест яе, галоўным чынам, грунтуецца на досьледзе. Значыць, пры вывучэньні фізыкі досьлед павінен заняць першае месца. У нас-жа чытаюцца лекцыі фізыкі з дэманстраваньнем толькі некаторых досьледаў, часта няўдалых і заўсёды без актыўнага ўдзелу студэнтаў. Студэнты на лекцыях зьяўляюцца толькі пасыўнымі гледачамі. Да прыладаў нельга даткнуцца—ніхто, апрача лябарантаў і прафэсуры, ня мае права рабіць фізычных досьледаў.

Адбываць лябараторны практыкум—ці то на моцы рэжыму эканоміі, ці то з стратэгічных або палітычных меркаваньняў,—студэнтам не даводзіцца. Лічыцца, што будзе больш правільна выпусьціць дылетанта-настаўніка фізыкі, чым даць яму магчымасьць практычна працаваць па курсу фізыкі і навучыцца ўмела ставіць досьледы.

Фізычнага практыкуму, значыць, няма. Студэнтаў пацяшаюць тым, што яны магчымуць азнаёміцца (зьвярніце увагу: толькі азнаёміцца!) з фізычнымі прыладамі і пастаноўкай досьледаў тады, калі яны будуць адбываць практыкум мэтодыкі фізыкі. Але дарма! На мэтадычным практыкуме студэнт навучаецца толькі гнуць шкляныя трубкі, ды паліць гаручы газ. Праўда, студэнту больш і ня трэба, бо ўсе досьледы элемэнтарнай фізыкі ён павінен быў прарабіць у сярэдняй школе. Ну, а калі якая-небудзь частка, хоць-бы процантаў сто, студэнтаў і не працавалі практычна, альбо нават і ня бачылі досьледаў пры вывучэньні фізыкі ў сярэдняй школе, дык гэта—глупства і, значыць, уводзіць фізычны практыкум, без якога, з нашага погляду, амаль нельга абыйсьціся, ёсьць, з погляду другіх, лішняя роскаш.

І выходзіць, што фізыка з навукі дасьледчай абернена ў нас у мэтафізыку, у схолястыку, бо ад пачатку і да канца яна праходзіцца толькі на „павер“ ды „ўяві“.

Падрыхтаваны, такім чынам, толькі верыць, а не дасьледваць, выпушчаецца студэнт на практычную дзейнасьць выкладчыка фізыкі бязрадны і не ўяўляючы,—як узяцца за пастаноўку выкладаньня фізыкі, як наладзіць фізычны габінэт. Гэта, бясспрэчна, грунтоўны недахоп, які адбіваецца на ўсёй далейшай працы. Каб унікнуць гэтага—трэба абавязкова арганізаваць фізычны практыкум. Студэнт-фізматавец павінен самастойна практычна працаваць па курсу фізыкі, працаваць як належыць, у лябараторыі.

Фізычная лябараторыя павінна быць адчынена для студэнтаў ня менш як на тры гадзіны ў дзень, і ня раз у тыдзень, а штодзенна; неабходна даць студэнту магчымасьць працаваць і выканаць у абавязковым парадку некаторы мінімум заданьняў.

Практычныя заняткі радыё-тэхнікай зьяўляюцца толькі фармальным бокам справы; гэта ёсьць практычная праца толькі на паперы, бо за адзін раз на два тыдні нельга выканаць ня толькі задачу, але нават і разглядзець усё як-сьлед.

Да таго часу пакуль не ўвядуць абавязковы фізычны практыкум, пэдфак будзе выпушчаць пэдагогаў „ляўшою на абедзьве нагі“.

**Шустэрман**

# Пытаньні акадэмпрацы на Правгасе

Асноўным стрыжнем акадэмічнага жыцьця факультэту, побач з пытаньнямі навучальнага пляну, былі пытаньні навуковых гурткоў і студэнцкае практыкі.

На пачатку бягучага навуч. году Прафком арганізаваў 3 гурткі: грамадзянскага права, таваразнаўства, палітэкономіі. Практыка працы гурткоў паказала, што яны сябе апраўдалі, і ў другім паўгодзьдзі мы маем яшчэ адзін гурток—рахунковых навук. Даволі моцна перашкаджае працы недаацэнка часткаю студэнцтва значэньня гурткоў. Некаторыя студэнты спачатку запісваюцца ў гурток, займаюць месца, а пасьля перастаюць і наведваць, замінаючы толькі працаваць другім, якія-б хацелі працаваць сур'ёзна. Прафком змагаецца з такімі зьявамі праз выключэньне з гурткоў тых, хто не наведвае заняткаў і не працуе актыўна.

Мэтады заняткаў гурткоў былі розныя; змагаліся паміж сабою мэтад дакладаў і мэтад гутарак, аднак, практыка працы гурткоў і думкі ўдзельнікаў гэтае працы сьведчаць на большую карысьць мэтаду дакладаў. Згодна з гэтым Прафком запрапанаваў усім гурткам перайсьці на сыстэму дакладаў.

Пытаньне вытворчай практыкі стаіць надта востра. Наш факультэт малады, і студэнтам 3-га курсу прыходзіцца на сваіх плячох выносіць увесь цяжар зьвязаны з вырашэньнем гэтага пытаньня. Да гэтага часу ўдалося наладзіць практыку толькі для студэнтаў аддзяленьня права. Што да аддзяленьня эканомікі, дык пытаньне яшчэ ня вырашана, ня гледзячы на ўсе высілкі дэканату і прафкому.

На праўным аддзяленьні практыка праводзіцца па двух цыклях—права грамадзянскае і права крымінальнае; згодна з гэтым падзелены і студэнты пры накіраваньні іх на практыку пры установах.

Канфэрэнцыі практыкантаў выявілі рад недахопаў у пастаноўцы справы. Кіраўніцтва практыкай было вельмі слабое, як з боку дэканату, так і з боку прафэсуры; згэтуль брала свой пачатак і індыфэрэнтнасьць самых устаноў, дзе працуюць студэнты. Некаторыя установы адносіліся вельмі няўважна да студэнтаў—напр., даручалі ім „адказную працу"—пісаць позвы, не даючы ніякай іншай. Зразумела, што апроч дарэмнай страты часу, такая практыка нічога студэнту не давала.

Прафком саюзу Савгандальслужачых у справе практыкі сьцьвярдзіў, што 1) кіраўніцтва студэнцтвам ня было, 2) кантрольныя лісты сябе не апраўдалі, 3) канфэрэнцый практыкантаў было мала. Бяручы гэта пад увагу, прафком паставіў перад дэканатам пытаньне аб замене унівэрсытэцкага кіраваньня практыкаю,—кіраваньнем з цэнтральных судовых устаноў. Гэтай мерай можна было-б зьнішчыць халатнасьць, якую выяўляе да пытаньняў студэнцкае практыкі цэлы шэраг судовых працаўнікоў. Такое кіраваньне, аднак, не павінна адбывацца бяз удзелу загадчыка катэдры. Існуючыя цяпер кантрольныя лісты і штодзеньнікі павінны быць заменены новымі, больш дасканалымі формамі кантролю.

